*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

**№ 15 (227)**

12 красавіка 1995 г.

Кошт — 100 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **НАПРЫКАНЦЫ САКАВІКА Ў БУДАПЕШЦЕ ПРАЙШЛІ ДНІ БЕЛАРУСІ**. У іх прграме студэнтамі беларускага лектарата і членамі Венгерскай асацыяцыі беларусістаў пры ўдзеле і матэрыяльна-тэхнічнай дапамозе пані Эржэбет Вучканіч быў арганізаваны вечар «Гэй, Беларусь!..». На вечары з дакладам «Беларусь і Вялікае Княства Літоўскае» выступіў загадчык кафедры славянскай і балтыйскай філалогіі, старшыня Венгерскай асацыяцыі беларусістаў Андраш Золтан. На працягу Дзён Беларусі працавала выстава беларускай кнігі «З падстрэшша рук Скарынавых...»

○ ***У ДРУКУ З'ЯВІЛАСЯ ГУТАРКА СА СТАРШЫНЁЙ ЦЭНТРВЫБАРКАМА АЛЯКСАНДРАМ АБРАМОВІЧАМ.*** *На меркаванне карэспандэнта аб тым, што складваецца ўражанне, што тэлебачанне пра выбары гаварыць не будзе, цэнтральныя газеты пісаць не будуць і выбары пройдуць у мёртвай цішыні, спадар Абрамовіч адказаў: «У рамках Закона аб друку асвятляць выбарчую кампанію ніхто не забараняў. У межах 600 тысяч рублёў кандыдат можа выкарыстоўваць любыя сродкі агітацыі, у тым ліку і рэкламу ў прэсе, але ўсё, што перавышае гэтую суму, будзе лічыцца парушэннем. Кандыдат за гэта будзе адказваць. І рэдакцыі, якія ведалі аб такім парушэнні закона, але дапусцілі яго, будуць таксама несці адказнасць. Ключавую ролю ў кантролі будуць адыгрываць акруговыя выбарчыя камісіі, якія будуць разбірацца ў кожнай канкрэтнай сітуацыі».*

○ **ГРУПА ЮРЫСТАЎ ПАД КІРАЎНІЦТВАМ СТАРШЫНІ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА ПАДРЫХТАВАЛА НАВУКОВА-ПРАВАВЫ КАМЕНТАРЫЙ ДА КАНСТЫТУЦЫІ**. Аднак, па словах В.Ціхіні, гэта не афіцыйнае тлумачэнне Канстытуцыі, бо падобная функцыя — прэрагатыва Вярхоўнага Савета. Прычынай з'яўлення «Навукова-прававых каментарыяў да Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь» стала палярнае тлумачэнне кіраўнікамі дзяржавы адных і тых жа палажэнняў Канстытуцыі. Каментарыі ўжо здадзены ў выдавецтва «Беларусь» і, як спадзяецца В.Ціхіня, у пачатку восені выйдуць у свет. А ці не позна будзе?

○ ***ЭКАНАМІЧНЫ СУД СНД ПРЫЗНАЎ АБГРУНТАВАНЫМІ ПРЭТЭНЗІІ КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ ДА ЎРАДА КАЗАХСТАНА.*** *29—30 сакавіка ў штаб-кватэры СНД адбылося пасяджэнне калегіі Эканамічнага суда Садружнасці, на якім была разгледжана справа аб неналежным выкананні Казахстанам пагаднення ад 4 сакавіка 1993 года паміж урадамі нашых краін аб пастаўцы збожжа ўраджаю 1993 года і аказанні дапамогі ў яго ўборцы. Як вядома, казахскі бок не выканаў узятых на сябе абавязацельстваў па аплаце працы беларускіх механізатараў і выкарыстанню аўтатранспарту. Беларусь прад'явіла Казахстану іск на 2 971 201 долар ЗША. Акрамя таго, Казахстану трэба будзе аплаціць натурай больш чым 800 тон збожжа. Суд прыняў рашэнне, але ці выканае яго Казахстан?*

○ **ШЭСЦЬ МІЛЬЁНАЎ СПОНСАРСКІХ РУБЛЁЎ ВЫДЗЕЛІЎ БАНК «АЛІМП» ОПЕРНАЙ ТРУПЕ БЕЛАРУСКАГА ОПЕРНАГА ТЭАТРА**. Сума па цяперашнім часе невялікая, але для нашай нацыянальнай культуры, якой сёння нельга разлічваць на шчодрае фінансаванне з боку дзяржавы, усякая дапамога дарэчы.

○ ***У КАМІТЭЦЕ ПА СПРАВАХ МОЛАДЗІ*** *прайшло пасяджэнне, на якім была прынята дзяржаўная праграма «Моладзь і Беларусь».*

*У фальклоры ёсць магія...* *Стар. 3 і 7.*

*Яшчэ нядаўна за яе каралі, а сёння тэлепраграму з гэльскай мовай глядзяць 200 тысяч шатландцаў.* *Стар. 4.*

# 59-ы гаворыць па-беларуску

— «Асцярожна, дзверы зачыняюцца. Наступны прыпынак...» Гэткія словы ўсё часцей гучаць у камунальным транспарце сталіцы. Каб даведацца, якім чынам беларуская мова з «вясковай» ці «пісьменніцкай» ператвараецца ў побытавую, карэспандэнт «Нашага слова» наведаў менскае тралейбуснае дэпо № 3.

Аб стане рэчаў яму расказаў намеснік дырэктара дэпо Іван Шалік.

— З моманту выхаду Закона аб мовах ён пачаў ажыццяўляцца на нашым прадпрыемстве. У выніку таго сёння ўжо каля 70% вадзіцеляў тралейбусаў нашага парка звяртаюцца пад час работы да пасажыраў па-беларуску, напрыклад абвяшчаюць назвы прыпынкаў. З'явіліся ў сувязі з гэтым і праблемы, бо сярод нашых работнікаў ёсць і ўкраінцы, і літоўцы, і эстонцы, для якіх дзяржаўная мова — не родная. Таму мы нават распрацавалі маленькія размоўнікі, у якіх змешчаны патрэбныя для работы тэрміны і фразы па-беларуску.

Справа пашырэння кола ўжывання мовы закранула не толькі работнікаў, але і кіраўніцтва: на беларускі шрыфт былі перароблены ўсе машынкі, па-беларуску друкаваліся ўсе ўнутраныя дакументы. Мы былі гатовы да ўжывання мовы і ў справаводстве, і ў практыцы штодзённых зносін. Я гавару «былі», таму што апошнім часам гэты працэс прыпыніўся. Прычына гэтаму — не супраціў работнікаў ці кіраўніцтва, бо для большасці праблемы авалодання мовай не існуе. Прычына ў іншым — у няпэўнасці становішча — не ў нас, а ў краіне. Бо, з аднаго боку, нашы шэфы з гарадскога аб'яднання электрычнага транспарту і з упраўлення транспартнай сувязі і патрабуюць і рэкамендуюць нам пашыраць кола ўжывання мовы, а ў выпадку нязгоды абяцаюць нават ужыць адміністрацыйныя санкцыі. А з другога боку, ёсць заява Прэзідэнта аб неабходнасці рэферэндуму аб двухмоўі...

Тым не менш, нешта робіцца, і найбольшая ў гэтым заслуга належыць нашым работнікам. Бо я як адміністратар не маю права загадаць вадзіцелю карыстацца той ці іншай мовай. Але ж беларуская — родная для большасці з іх. Вось гэтыя людзі, гаворачы па-беларуску з сотнямі тысяч пасажыраў штодзённа, і працуюць на павышэнне яе прэстыжу. Бо ўсе мы



разумеем: прыйдзе час, калі ўсе мы будзем жыць у краіне, якая будзе сапраўды нашай. І мова яе будзе наша мова...

Другім суразмоўцам нашага карэспандэнта стаў Генадзь Босы, вадзіцель тралейбуса:

— У менскі тралейбусны парк № 3 я прый-шоў працаваць у 1991 годзе. Якраз тады быў прыняты Закон аб мовах. Пачалося яго выка-нанне і ў нас.

Сам я па-беларуску гавару з дзяцінства, бо нарадзіўся ў вёсцы, скончыў там беларускую школу. Таму ўжыванне мовы ў штодзённай працы стала для мяне, як і для многіх іншых, не выкананнем загаду, а вяртаннем да мовы, якой гаварыла мая сям'я. Гэтае ж можна сказаць і пра іншых вадзіцеляў: нехта гаворыць горш, нехта лепш — у залежнасці ад таго, дзе ён нарадзіўся і рос, але вучыць мову ад пачатку было патрэбна адзінкам. Так, напрыклад, мой новы зменшчык на маршруце, пачуўшы, што ўсе аб'явы пад час працы я раблю па-беларуску, спачатку гэтаму здзівіўся. Але ж цяпер і ён сам у сваёй працы карыстаецца роднай мовай.

Увогуле, на якой мове звяртацца да пасажыраў ці гаварыць між сабой — гэта прыватная справа кожнага вадзіцеля. Тым не менш змены адбываюцца. І прычына гэтаму — не толькі ініцыятыва мая ці іншых, але і падтрымка з боку нашага кіраўніцтва, якое заахвочвае да карыстання мовай работнікаў. Разумееце, заклікі да шанавання сваёй культуры — гэта толькі словы. А на свядомасць людзей уплываюць учынкі — тое, што па-беларуску афармляецца нават тэхнічная дакументацыя, тое, што дзякуючы нам на вуліцах сталіцы беларускай дзяржавы ўсё часцей гучыць яе мова.

Мне здаецца, што перад намі стаіць задача большая, чым проста адраджэнне мовы. Мы маем сваю дзяржаву, і для нас яна павінна стаць нашым домам. А беларуская мова — гэта і ёсць мова майго дома, майго дзяцінства. Захоўваючы сваю мову, мы захоўваем сябе саміх.

**Запісаў У.ПАНАДА.**

## *Урачыста адсвяткавалі 77 угодкі БНР*

77 гадоў таму была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Урачыстыя сходы, мітынгі з гэтай нагоды па ўсёй Беларусі наладзілі сябры Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», іншых партыяў і грамадскіх аб'яднанняў. У Менску 25 сакавіка на плошчы каля Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета на вялікі фэст сабраліся менчукі і госці. Выступоўцы гаварылі пра вялікае значэнне той даўняй падзеі для нашага народа і дзяржавы. Абвяшчэнне ў 1918 годзе незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі стала вызначальнай вяхой гісторыі нашай краіны. Людзі Беларусі ніколі не забудуць слаўны чын стваральнікаў БНР, подзвігу яе абаронцаў. Ды ўсё ж у прамовах пераважаў клопат пра сённяшнюю сітуацыю на Беларусі, пра стан нашага грамадства. На мітынгу выступілі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, творчых суполак, а таксама лідэр апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Зянон Пазьняк.

* * *

Сёлета, як і летась, у Жлобіне быў адзначаны Дзень волі — свята 25 сакавіка. З ініцыятывы мясцовых арганізацый адбылася святочная вечарына. Гучалі патрыятычныя песні, свае вершы прачытаў Павел Луд.

**М.Ш.**

### «Адраджэньне -95»

Таго ж дня ў Менскім Палацы мастацтваў адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы «Адраджэньне-95». Гэта ўжо пяты паказ лепшых твораў, вернісаж мастакоў творчай суполкі «Пагоня», прымеркаваны традыцыйна да ўгодкаў БНР. Добрым словам мастакоў і гасцей віталі Ніл Гілевіч, Радзім Гарэцкі, Вольга Іпатава, сябры суполкі «Пагоня». Сёлета на выставе можна ўбачыць гравюры, алейкарціны, скульптуры, габелены, кераміку — творы блізу васьмідзесяці мастакоў. Выстава будзе працаваць два тыдні.

## Замежжа

### Абрана новая рада

Таварыства беларускай мовы «Прамень», якое аб'ядноўвае беларусаў Латвіі, на сваім справаздачным сходзе абрала раду ў колькасці 15 чалавек. Спадары радцы размеркавалі між сабою абавязкі згодна з сваімі схільнасцямі. Старшынёй «Праменя» застаўся Алесь Карповіч. За сувязь з управай «Бацькаўшчыны» будзе адказваць Лявон Шакавец, за працу хора «Надзея» — Зоя Калвіша. Абраны таксама сакратары рады, настаўнікі беларускай і латышскай моваў, скарбнік.

(Па матэрыялах газеты «Прамень».)

Рупліўцы

# Васіль ЛІЦВІНКА:
# «У фальклоры ёсць магія»

*Інтэрв'ю старшыні Беларускага саюза фальклырыстаў, навуковага кіраўніка навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору БДУ*



**— Васіль Дзмітравіч, некалькі гадоў запар Вы выконвалі функцыі Прэзідэнта асацыяцыі фальклярыстаў Беларусі, што нядаўна, на Другім сваім з'ездзе, перайменавана ў Беларускі саюз фальклярыстаў (БСФ). Вас абралі на другі тэрмін кіраваць арганізацыяй — на гэты раз у якасці яе старшыні. Скажыце, што ад такой填 пэратурбацыі змянілася?**

— Нічога не змянілася. На такі крок мы змушаны былі пайсці ў сувязі з тым, што падрыхтаваны для вынясення на разгляд Вярхоўнага Савета РБ Праект Закона аб творчых саюзах, дзе прадугледжана льготнае падаткаабкладанне і арэнда памяшкання.

**— Юрыдычны статус арганізацыі застаецца ранейшым?**

— Ён не змяніўся. БСФ прапанавана ўвайсці ў склад арганізацыі па народнай творчасці (IOF) са штаб-кватэрай у Аўстрыі.

**— Прафесар Варшаўскага універсітэта Алесь Баршчэўскі застаецца Вашым намеснікам?**

— Яго таксама перавыбралі на новы тэрмін у якасці намесніка старшыні БСФ. Для арганізацыі гэта вельмі важна, паколькі прафесар — сувязное звяно паміж беларусамі замежжа і метраполіяй. І гэта з часу, калі ў нас яшчэ лічылася дзяржаўным злачынствам мець такія сувязі. А галоўнае, Баршчэўскі — прафесійны фальклярыст і асветнік, таму ёсць надзея, што беластоцкія беларусы не будуць асіміляваны ў такой ступені, як савецкія.

**— Паясніце свае функцыі ў БСФ?**

— Каардынатар збіральніцкай дзейнасці ў ВНУ Беларусі і навуковы кіраўнік тэмы: «Рэгіянальная спецыфіка беларускага фальклору і яго месца ў адукацыі і культуры», якая фінансуецца Міністэрствам адукацыі і навукі.

**— Заўважаецца, што Вы энтузіяст у справе адраджэння і захавання народнай творчасці. Скуль такая любоў да песень і абрадаў?**

— Паўтару словы свайго настаўніка Рыгора Шырмы: «Мне лёгка было разумець фальклор, бо я купаўся ў ім». Мне таксама пашэнціла «купацца» ў фальклоры з дня свайго нараджэння. Я вырас у Столінскім раёне на Берасцейшчыне (вёска Церабяжоў), на мяжы з Украінай. У дзяцінстве магія песні, магія абраду ўспрымаліся як жывая рэальнасць, на ўзроўні псіхаэмацыянальнага стану душы. Пры чыста навуковым падыходзе да фальклору яго ніколі не зразумець. Для мяне асабіста не ўзнікала пытанне кім быць. Скончыў філфак, абараніў дысертацыю і натуральным чынам уключыўся ў фальклярыстычную працу, якую лічу справай свайго жыцця.

**— А што адбываецца, калі да фальклору звяртаецца дылетант з пэўнымі, скажам, мэтамі? Цяпер у нас самадзейных гуртоў і ансамбляў развялося, што грыбоў пасля дажджу.**

— Сапраўды, у нас часта назіраецца меркантыльны, спекулятыўны падыход да фальклору. З боку тых самых ансамбляў, якія зараз усе рынуліся ў Еўропу. Часам яны нясуць павярхоўны, шлягерна-забаўляльны фальклор, калі культывуецца спрашчэнне, прымітыў. І ў людзей іншых краін, на жаль, складваецца ўражанне, што гэта сапраўдны беларускі фальклор, асабліва жартоўныя песні тыпу «А я ўсё дзіўлюся, дзе мая Маруся» або «Чаму ж мне не пець». А ў нас жа ёсць песні працяжныя, лірычныя. Лірызм адпавядае нацыянальнаму характару беларуса. Выхаваны на фальклоры чалавек — сціплы, гасцінны, далікатны і спеўны, багаты эмацыянальна. Узор такога характару нью-йоркскі беларус Богдан Андрусішын (Данчык).

**— Ёсць процілеглыя меркаванні пра манеру, стыль выканання народных абрадавых твораў «Песнярамі»?**

— Па-першае, «Песняры» — эстрадны, а не фальклорны калектыў, па-другое, яны высокія прафесіяналы і кіруюцца перад усім ідэйна-мастацкімі задачамі, якія абумоўліваюць рацыянальны падыход да народнай песні; па-трэцяе, эстрада — хочаш не хочаш — мяняе і спрашчае рытміку песні. Дзеля справядлівасці скажу, што «Песняры», калі яны не мянялі рытміку песні, прарываліся ў сапраўдную спеўную і музычную культуру беларусаў, — гэтым яны якраз і запомніліся, таму іх і прымалі так цёпла ў Амерыцы. Для прыкладу прывяду ў іх выкананні купальскую карагодную песню «Ой, рана на Івана», для якой характэрна кананічная побытавая манера спеваў. Гэта, калі ля аднаго вогнішча (прызбы, пагорка) пачынаюць спяваць, а ля другога падхопліваюць з першага радка.

**— Што ў фальклоры стаіць на першым месцы: спеўная культура, культура музычная ці харэаграфія?**

— Спярша самае галоўнае — бессэнсоўнага фальклору няма. Ён бытавы, матэрыялізаваны, яго глеба — слова. Нават магія слова. У песні яна прарастае ў больш высокую магію, што эмацыянальна пранікае ў чалавека. Валачобныя, куставыя, калядныя песні — гэта своеасаблівыя заклінанні, прадказанні, магічныя формулы. Традыцыйныя людзі так і ўспрымалі народную песню: лічылі, што ім праспяваюць на Каляды ці Вялікдзень, тое і збудзецца. Носьбіты аўтэнтычнага фальклору рабілі тое, што цяпер робяць экстрасэнсы: адпаведным чынам настройвалі людзей, лячылі іх, таму, канешне ж, першае месца ў фальклоры займае спеўная культура. Музыка, танец, міміка, жэсты, строі арганічна яе дапаўняюць. Зараз ідзе адраджэнне нацыянальнай культуры, і мы ўключыліся ў гэту працу адкрыта, за што раней атрымалі б ярлык нацыяналістаў і ворагаў народа. Камуністам з іх «звышінтэрнацыяналізмам» не патрэбны былі людзі з нацыянальным характарам, душой, пачуццямі, нацыянальным менталітэтам. Сёння мы маем магчымасць вярнуць з нябыту сотні тысяч народных песень, танцаў, музычных твораў, найгрышаў, паказаць свету сваё духоўнае багацце, якое ў іншых месцах амаль не захавалася. Але існуе небяспека, што пры агучванні і рэстаўрацыі фальклорных твораў, пераважна песень, іх можна знявечыць і апашліць. Мы жывём не толькі ў эпоху адраджэння фальклору, але і ў эпоху фальклорнага дылетантызму. Нагадаю артыкул Ніла Гілевіча ў «ЛіМе» «Перавернута на карысць пошласці». Ён бярэ ў якасці прыкладу песню «У саду гуляла, цвяточкі рвала» — сёння гэта папулярны фальклорны шлягер — і паказвае, як у сувязі з бязглуздым умяшаннем у яе тэкст адбылося скажэнне маральнай і эстэтычнай сутнасці. Ніл Сымонавіч з гэтай нагоды сказаў «а», а я скажу «б», бо адшукаў аўтэнтычны тэкст гэтага твора:

*Надумалася дай мая маці,*
*Ды за старога замуж аддаці.*
*У таго старога вяліка хата,*
*Да й людзі кажуць, —*
*Грошай багата.*
*А я старога шанаваць мушу —*
*Забяры, Божа, ты яго душу.*
*А я раненька лічанька мыла.*
*Пашлі мне, Божа, каго любіла.*
*А я ўсю ночку буду гуляці,*
*Хай стары знае моладу браці.*
*А мне не трэба вяліка хата,*
*А мне не трэба грошай багата.*
*Тое багацце вецер развее,*
*Мілы абдыме — сардэнька млее.*

**— Чаму адбываюцца такія падмены тэкстаў?**

— У выніку павярхоўнасці і некампетэнтнасці. У нашай сталічнай кансерваторыі дзесяткі гадоў выконваліся народныя песні — «Чорная галка» і «Чабарок» — абедзве служаць прыкладам збаўляльнага мастацтва. Вось паслухайце:

*Чабарок, чабарок, ды каля дарожкі,*
*Харашэнькі мой міленькі, ды*
*крывыя ножкі.*
*Ля-ля-ля, ля-ля-ля, ля-ля-ля,*
*ля-ля-ля*

І гэта на афіцыйным, на прафесійным, на навуковым узроўні.

**— На такіх узорах вучылі дзяцей?**

— Дзяцей увогуле не вучылі на беларускіх узорах. Гэта ўжо лічылася нацыяналізмам.

**— Скажыце, а што для традыцыйнага чалавека азначае народны каляндар?**

— Азначае адпаведны пары года стан душы. Ёсць парадак у дзяржаве, ёсць парадак у царкве, і ёсць парадак у душы традыцыйнага чалавека, які спрадвеку жыў па народнаму календару. Мая 96-гадовая бабуля Ульяна прызнавалася, што кожны дзень устае з адпаведным станам душы. Сёння ў яе Шчодрык, дык яна за дзень усе шчадровачкі праспявае і ўнукам пачастунак падрыхтуе, калі Стрэчанне, то душу будзе наталяць прыгожым мастацтвам, песнямі, музыкай, танцамі, што нясуць гэтай душы радасны, урачысты настрой і светлыя думкі. Першым крокам у адраджэнні духоўнасці народа, я ўпэўнены, з'яўляецца адраджэнне народнага календара. Інакш, як праз каляндар, нельга перайсці ад абсалютнага няведання прадмета да яго глыбокага асэнсавання. Таму фальклярысты кінуліся цяпер складаць і распрацоўваць гэтыя календары. Такі каляндар склаў і я, а надрукаваў яго ў «Нашым слове» напрыканцы 1994 года.

**— А ці можна прасачыць адраджэнне фальклору ў гістарычным плане?**

— Чаму ж не? Як вядома, з культурна-асветнай і навуковай дзейнасці фальклярыстаў і этнографаў і пачалося ў XIX ст. адраджэнне нашай культуры. Прыгадаем усім вядомыя даследаванні Шпілеўскага, Карскага, Шэйна, Федароўскага, Багдановіча, Раманава, Янчука і іншых, якія паслужылі глебай для адраджэнцаў пачатку XX ст. Але сёння мала каму вядома, што ў гэтым працэсе вывучэння беларускага краю ўдзельнічаў і рускі цар. На ўласныя грошы (за 10 тысяч рублёў золатам) ён паслаў на Беларусь адукаваных людзей вывучаць нацыянальны твар народа, а адказ-

(Заканчэнне на с.7.)

У суседзяў

# Чачня: Грозны — брацкая магіла

Ёсць чуткі, што ў Беларусь збіраецца прыехаць маскоўскі праваслаўны патрыярх Алексій II. Як гаворыцца, у добры час. Але ж калі да яго падпусцяць журналістаў, уладыку хутчэй за ўсё давядзецца пачуць не адно вострае пытанне, у тым ліку і пра Чачню. Напрыклад, перш чым наведаць Беларусь, ці наведаў патрыярх мясціны, якія расійскай арміяй ператвораны ў пекла, дзе загінулі ці жывуць у пакутах тысячы і тысячы мірных жыхароў, у тым ліку рускіх па нацыянальнасці. Ці наведаў ён Аргун, які, пасля таго, як яго пакінулі дудаеўцы, яшчэ двое сутак бамбіла расійская авіяцыя і граміла цяжкая артылерыя, нягледзячы на тое, што гэты горад увогуле амаль на 90 працэнтаў насялялі рускамоўныя, многія з якіх, безумоўна, былі яшчэ і праваслаўнай веры. Гэтых навошта рвалі бомбавымі выбухамі на кавалкі? Каб знішчыць рускіх сведкаў сваіх подзвігаў?

Нарэшце будуць, безумоўна, і пытанні пра Грозны ды пра палкавога папа Кіпрыяна. Вось што пра гэта паведаміла газета «Известия» (№ 54, 95) у рэпартажы «Грозны... На брацкіх магілах не ставяць крыжоў». Рэпартажу папярэднічае жудасны фотаздымак, які нагадвае тыя, што публікаваліся пасля Другой сусветнай вайны, паказваючы бесчалавечныя зверствы гітлераўцаў: гіганцкі, мо на палову кіламетра роў, завалены кавалкамі чалавечыны. «Известия» паведамляюць, што расійская армія не выдзяляе для збору свайго жудаснага «ўраджаю» пахавальныя каманды, відаць, каб не шакіраваць лішні раз салдат вынікамі «навядзення канстытуцыйнага парадку». Трупы збіраюць добраахвотнікі, у асноўным з мясцовых казакаў. «Кожны дзень, — піша газета, — да гэтых траншэяў адусюль цягнуцца людзі, якія не страцілі надзеі адшукаць прапаўшых родзічаў. Хаця б забітымі, але знайсці. Зрэдку ля насілак раздаюцца гучныя воклічы адчаю, і пахавальная каманда адзначае: некага апазналі. Асноўную ж масу рэшткаў трупаў скідваюць у траншэю, выкапаную экскаватарам. Калі яе запаўняюць да канца, то закопваюць, як і некалькі папярэдніх. Крыжа зверху ніхто не паставіць. Як спяваў некалі Высоцкі: «На братских могилах не ставят крестов, и вдовы на них не рыдают...» Сапраўды, — не рыдаюць, — зазначае журналіст, — таму што ў гэтых магільніках спрэс неапазнаныя. Многія з забітых — мусульмане. Але ў траншэі ляжаць усе разам, упераамешку — хрысціяне, мусульмане, чачэнцы, інгушы, рускія, жанчыны, дзеці, старыя...

У пераможных зводках дзяржаўнай прэс-службы, — заўважае карэспандэнт, — аб гэтых траншэях — ані слова. Улады з самага пачатку заплюшчвалі вочы на лёс мірнага насельніцтва Грознага і ў афіцыйныя страты гэтых людзей не заносілі. Па прынцыпу: лес сякуць — трэскі ляцяць. Але «трэсак» аказалася вельмі многа — не хапае траншэй. І калі праваабаронцы загаварылі аб гэтых ні ў чым непавінных людзях, якія гінуць ні за што, афіцыйныя ўлады і ненажэрныя палкаводцы пачалі абурацца: чаму, маўляў, шкадуеце гэтых, забітых, а не салдацікаў, якія забіваюць...

Ужо гэта павінна б было неадкладна звярнуць на сябе ўвагу праваслаўных іерархаў. А паколькі руская праваслаўная царква абвяшчае, што не мае межаў, то не было б і ўмяшаннем ва ўнутраныя «справы» чужой дзяржавы, каб наш уладыка Філарэт паслаў наконт гэтага ўсяго свой афіцыйны запыт. Але ўсё роўна ў маскоўскага патрыярха могуць спытаць, ці чытаў ён хоць вось гэта ў згаданым рэпартажы маскоўскіх «Известий»: «Над магілай са зброяй у руках стаіць палкавы поп бацюшка Кіпрыян. Ён, які прайшоў ужо не адну «гарачую кропку», блаславіляе на бой салдат, а пры неабходнасці і сам з задавальненнем страляе. «Біць супастата — святая справа», — тлумачыць ён, відаць, зусім забыўшыся, што ваюе ж на сваёй зямлі і са сваімі. Напэўна, мы сапраўды вяр'яцеем, — заўважае на гэта карэспандэнт, — калі ў нас поп спачатку забівае, а потым прыходзіць адпяваць. Калі ўлады ўстанаўліваюць канстытуцыйны парадак, але дзеля гэтага рыюць магільную траншэю — адну на ўсіх».

Можна толькі здагадвацца, што і маскоўскі патрыярх да нас мае завітаць напярэдадні магчымага прэзідэнцкага рэферэндуму не так сабе.

**Ул.Ас.**

# Пакуль плывуць «памяжкі»

Вяртаючыся да тэмы адраджэння мовы, нельга не задумацца над тым, што вымушае чалавека адрачыся ад роднага слова і дзе пачатак прызвычайвання да чужога.

Канешне, першая прычына — палітыка Савецкай дзяржавы на русіфікаванае навучанне і справаводства. Гэта — безумоўна, але — не толькі...

Як вядома, мова, найлепш захаваная ў вясковым асяродку, паступова і там траціць сваю сілу. Школа школаю, кантора кантораю, а ў хатнім ужытку нішто не замінала размаўляць па-свойму. І нельга абмінуць увагаю, які ўплыў на захаванне мовы мае прыроднае асяроддзе.

Чуйная да змяненняў, чалавечая душа шкадуе і засохлую яблыню і разбуранае кубло... Савецкая ж дзяржаўная машына падмінала пад сябе велізарныя тэрыторыі, перарабляючы прыроду на свой лад. Няма патрэбы распавядаць, колькі шкоды нарабіла асушэнне балот на Палессі, пра пясчаныя віхуры на асушаных землях... Пра тое дастаткова напісана.

Уявіце сябе на месцы жыхара невялікай вёскі. Няхай па адзін бок ад яе, ці за ёю, раней было балота, якое цяпер асушана, альбо — рэчка, якую перакапалі ды пусцілі іншым напрамкам. Давайце пакінем па-за ўвагаю, што засыхаюць землі, якія раней выкарыстоўваліся пад пасеў. Можна не зважаць на тую акалічнасць, што вёска апынулася сярод голага поля, і каб патрапіць у лес, на рэчку ці балота, трэба далёка дабірацца, што моладзь пастараецца чым найхутчэй з'ехаць у горад... Не станем нават закранаць тэму шкоднасці асушэння для балотнай ды рачной флоры і фауны. Хоць для чалавека іх знікненне, разам са знікненнем звыклых для вока краявідаў, прыдатных для гаспадарчых патрэб сенажацяў і карчоўя, лекавых раслін, рыбы,.. — мае вырашальнае значэнне.

Закранём толькі ўплыў знікнення краявідаў і шматлікіх назваў расліннага, жывёльнага свету на мясцовую гаворку, дыялект, мову. Калі раней, выйшаўшы з хаты і за вёску, чалавек бачыў: Хвашчова, Кругліцу, Козіна, Каробчыну, Дубэнскэ, Мікалеў Вір, Некрын, Калівіцак, Самініцкі Брадок, Любацкі Юрок.., то цяпер бачыць голае поле, без назваў. Бо поле, яно і ёсць поле — далёка раўнюткае.

А расліны!.. Са зменай умоў існавання яны таксама знікаюць, забіраючы з сабою назвы. І знайшоўшы ў энцыклапедычным даведніку «кашку», можна будзе прачытаць, што гэта — «бессмертник». Даведнік, які прымусіў звярнуцца да сябе дзеля адной, другой, трэцяй назвы, з ліку тых, што зніклі, пацягне звярнуцца і да іншых, можа яшчэ не жывых аб'ектаў і суб'ектаў назваў. Так рыбу «кажушак» (традыцыйная назва на Прыпяці) моладзь, асабліва з тых, хто пажыў у горадзе, усё часцей называе «щукой». «Салаплівец» становіцца «ершом»... Ужо мала хто ведае птушку «чарацяны воўк». І лёгкія воблакі на летнім небе, якія называліся «памягамі», «памяжкамі», ужо называюцца так вельмі рэдка, хоць нікуды з неба не знікалі...

З былымі назвамі застаюцца толькі старыя людзі, жывыя іх носьбіты. Але перавыхаваная на чужы лад моладзь не вельмі прыслухоўваецца да гаманы старых, і яны слабеюць разам са збядненнем прыроды, мовы...

Наглядаючы за гэтай з'явай не здалёк, а жывучы сярод палешукоў, можна зрабіць выснову, што змены мясцовага дыялекту ў расійскамоўным напрамку вызваныя не модай на расійскае слова, а хутчэй — выраканнем свайго. Бо сваю збяднелую мову чалавек перастае паважаць (і ўвогуле — заўсёды цягнецца да багацейшага), а бядноты свайго народа — сароміецца і нават пазбягае. Таму й стараецца звацца не «татам», а «папой», таму для яго маці не «маці», а — «мать».

Пра памяць аб продках ужо гаварыць не даводзіцца. Нашыя ж далёкія продкі пакланяліся прыродзе, бераглі яе, з павагай ставіліся да продкаў і іх мовы...

Я пра тое, што вярнуць загубленыя краявіды будзе немагчыма, і ва ўсім багацці мову мы ўжо ніколі не вернем. Але шмат можна ў гэтым накірунку зрабіць. Пакуль жывуць старыя людзі, пакуль плывуць у небе «памяжкі»...

**Аляксей ШЧАГРЫКОВІЧ.**
г.Віцебск.

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
у пытаннях і адказах

## Як чужынцы скарыстоўвалі існаванне на Беларусі розных рэлігій?

З даўніх часоў на Беларусі, як правіла, мірна суіснавалі розныя рэлігіі і вераванні: паганства, хрысціянства, іудаізм ды мусульманства.

Да пэўнага часу гэта не супярэчыла нацыянальнай кансалідацыі нашага народа. Усе рэлігіі ў той або іншай ступені спрыялі пашырэнню духоўнасці, асветы, навукі.

Аднак суседнія дзяржавы — Масковія і Польшча — недзе з XV стагоддзя пачалі скарыстоўваць шматканфесійнасць нашага народа дзеля ўласных экспансіяніцкіх мэтаў. Яны абралі шлях распальвання ўзаемнай нянавісці паміж рознымі цэрквамі на нашай зямлі.

Маскоўскія князі, пачынаючы з Івана III, імкнучыся спраўдзіць сваю царкоўна-палітычную дактрыну «Москва — третий Рим и четвертому не бывать», прысвойвалі тытул «государь всея Руси», што недвухсэнсоўна сведчыла пра іх намер падпарадкаваць землі нашага гаспадарства. Пасля заснавання ў 1589 годзе Маскоўскае патрыярхіі дзеянні з боку Маскоўшчыны ў дачыненні да Вялікага Княства набылі адкрыта агрэсіўны характар. На працягу XVII—XVIII стагоддзяў Масква спрычынілася да заняпаду нашае дзяржавы і, урэшце, яе зліквідавання.

У сваю чаргу польскія палітычныя колы з даўніх часоў імкнуліся ператварыць наш каталіцкі касцёл у сродак сваёй экспансіі. Яны ўжывалі розныя інтрыгі, дамагаючыся ў абыход законаў Вялікага Княства прызначэння палякаў на духоўныя пасады, каб пакрысе падпарадкаваць наш касцёл, спаланізаваць яго і ўрэшце сцвердзіць думку, што каталіцтва — гэта атрыбут польскасці.

У XIX стагоддзі палітыка Расіі была скіравана на выкараненне любых праяваў самабытнасці нашага краю. Беларусам навязвалася формула: «праваслаўны — рускі, каталік — паляк». У 1839 годзе праваслаўнае духавенства і расійскі ўрад зліквідавалі унію, якая на той час была амаль адзіным апірышчам беларускай мовы.

Выхоўваючы пакаленні беларусаў у духу «польскай» або «рускай» веры, чужынцы пазбаўлялі нас будучыні. Яны пакідалі нам ролю этнічнага матэрыялу, высмоктваючы таленты і багацці нашага краю.

Як бачна, палякі і маскоўцы на працягу стагоддзяў скарыстоўвалі існаванне розных рэлігіяў на Беларусі выключна дзеля панавання ў нашым краі. Рэцыдывы гэтае палітыкі мы, на жаль, бачым і сёння. Нягледзячы на абвяшчэнне незалежнасці Беларусі, тут мала што змянілася. Рэлігійныя канфесіі пакуль што не сталі дзейсным сродкам кансалідацыі беларускай нацыі.

**Юрась КАЛАЧЫНСКІ.**

---

## Якія гарады былі сталіцамі Беларусі?

Сталіцамі першых летапісных княстваў у IX—X стагоддзях былі *Полацак, Смаленск* і *Тураў*. Пасля таго як Тураў і Смаленск трапілі ў часовую залежнасць ад кіеўскіх князёў, Полацак застаўся адзіным цэнтрам магутнага беларускага гаспадарства — Полацкага княства. Асабліва выдатнае палітычнае значэнне ён набыў у XI стагоддзі пры Усяславе Чарадзеі, а культурнага росквіту дасягнуў пры яго нашчадках у XII стагоддзі. Пасля раздраблення Полацкага княства на захадзе Беларусі пачала фармавацца новая беларуская дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае. Яе сталіцай вялікі князь Міндоўг зрабіў *Новагародак* (Наваградак). У 1323 годзе вялікі князь Гедымін сталіцу дзяржавы перанёс у *Вільню*. Вільня заставалася сталіцай Вялікага Княства да канца XVIII стагоддзя. Аднак цэнтрам беларускага палітычнага і культурнага жыцця яна была амаль да сярэдзіны XX стагоддзя. З утварэннем у 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі, а ў 1919 годзе — Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі палітычнай сталіцай Беларусі становіцца *Менск*, пераназваны бальшавікамі ў 1938 годзе ў Мінск.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

---

*У суседзяў* — *У суседзяў*

# Расія на Поўдзень кінулася. Ці кінецца Поўдзень на Расію?

Недзе яшчэ ў пачатку мінулага года вядомы Жырыноўскі выдаў кнігу з красамоўнай назвай «Кідок на Поўдзень», дзе падбухторваў расіян пашыраць межы існуючых граніц са зброяй і ісці маршам на Поўдзень, каб памыць салдацкія боты ў Індыйскім акіяне. Але дзеля абвешчанай лідэрам ліберальна-дэмакратычнай партыі і прэтэндэнтам на прэзідэнцтва мэты Расіі патрэбна яшчэ «разабрацца» з паўднёвымі рэспублікамі, якія ўваходзілі ў СССР, у першую чаргу з «сепаратыстамі» Таджыкістана, не кажучы пра Каўказскі рэгіён увогуле. У Таджыкістане добра «забуксавалі», канца гэтаму пакуль не бачна. На каўказскім накірунку расійскім капіталістам-імперцам сталаназаляць незалежніцкімі памкненнямі Чачня. Спачатку яе спрабавалі «скавырнуць» падкормкай дудаеўскай апазіцыі ды дыверсійнымі акцыямі ФСК, але ваяжы скончыліся дзесяткамі загінуўшых ці ўзятых у палон расійскіх наймітаў і дзесяткамі ж спаленых гранатамётчыкамі навейшымі танкамі перад прэзідэнцкім палацам у Грозным. Тады Павел Грачоў, міністр абароны Расіі, са сваёй знакамітай усмешачкай «простага хлопца» стаў пераконваць тэлегледачоў канала «Астанкіна» і іншых, што калі за справу возьмецца ён, то «разбярэцца» з Грозным за суткі з дапамогаю двух дэсантных палкоў ці за 48 гадзін, калі задзейнічае адзін полк. Бліцкрыг не атрымаўся. Пекла ў невялічкай Чачні жахнула ўвесь цывілізаваны свет, там перабывала ўся гіганцкая расійская армія, уключна з марскімі дэсантнікамі Ціхаакіянскага і Паўночнага флотаў, а канца бойні не бачна. Будуць, кажуць, ваяваць «да апошняга чачэнца». Колькі пры гэтым пакалечаць ці адправяць у магілу ўласных салдат у разлік, як і было не раз у Расіі, не бярэцца. Што далей? Свае прагнозы ў «Литературной газете» (Масква) выказвае кандыдат палітычных навук Ягор Кузняцоў. Ягоныя меркаванні будуць, безумоўна, карысныя беларусам, якіх рознымі шляхамі пэўныя сілы імкнуцца далучыць да Расіі. Падаём некалькі фрагментаў згаданага артыкула, па якіх можна меркаваць увогуле пра нацыянальную палітыку расійскіх улад.

«Такім чынам, — зазначае Я.Кузняцоў, — паход пачаўся дзеля таго, каб паказаць: Чачня — частка Расіі. Аднак высветліў пакуль зусім іншае — яе жыхары гатовыя памерці, каб даказаць адваротнае. Больш таго. Высветлілася, што ні Інгушэція, ні Дагестан не лічаць сябе часткаю метраполіі. Незадаволенасць сілавымі метадамі выказаў і Татарстан. Яно і зразумела. Не трэба быць прарокам, каб зразумець: у выпадку поспеху ў Чачні Казань — наступны кандыдат на паказальную лупцоўку.

Вайна ў Чачні, піша Я.Кузняцоў, прывяла да нечаканых вынікаў не толькі на ўскраінах Расіі, але і ў яе цэнтры, у самой расстаноўцы сіл. А самы, бадай, істотны, самы небяспечны і дэмаралізуючы для прэзідэнта вынік — поўная страта сімпатый сродкаў масавай інфармацыі. Падзеі апошніх чатырох гадоў паказалі: для рэжыма гэта пачатак канца. Менавіта ранейшая падтрымка прэсы, якою прэзідэнцкая каманда часам паспяхова маніпулявала, дапамагала галаве дзяржавы вытвараць неверагодныя рэчы. Прэзідэнт вырашыў, што сродкі масавай інфармацыі — толькі паслухмяны інструмент у ягоных руках. Апазіцыйная прэса, праўда, заўсёды крытыкавала ягоныя дзеянні, але ніколі не адыгрывала вырашальнай ролі.

Але пачаўшы кампанію ў Чачні, прэзідэнт нечакана трапіў пад град мацнейшых інфармацыйных удараў і справа, і злева. Нават самыя верныя яму газеты сталі штодня публікаваць рэпартажы аб ісцінным стане спраў у Чачні, пра бардак і разгільдзяйства ў арміі, пра масавыя парушэнні правоў чалавека... тэлебачанне паказвае верталётныя абстрэлы вёсак, згарэлыя грузавікі, дзіцячыя трупы, заліты крывёю бежанцаў снег. Адначасова з экранаў гавораць маджахеды ў зялёных павязках джыхада, гатовыя хутчэй памерці, чымся здацца, і рускія жыхары Чачні, якія праклінаюць уварванне...

Расійскі палітолаг лічыць, што, разагнаўшы апазіцыю і паспрабаваўшы канчаткова падпарадкаваць сабе прэсу, прэзідэнт Ельцын канчаткова адышоў ад дэмакратычных прынцыпаў праўлення, вырашыўшы, што можа кіраваць краінай як манарх ці, таго пажаданей, як генеральны сакратар. А тым часам, пазбавіўшыся «аўтаблакіроўкі» і палічыўшы, што для яго вярнуліся кампартыйныя парадкі, «пайшоў уразнос». Эскапады ў Берліне (калі Ельцын раптам паспрабаваў дырыжыраваць аркестрам — **рэд.**) і Шэнане (калі ён жа не змог выйсці з самалёта, каб павітацца з ірландскім кіраўніком урада, які чакаў расійскага прэзідэнта ля трапа самалёта ды так і не дачакаўся — **рэд.**) зрабілі, заўважае Я.Кузняцоў, прэзідэнта смешным, і пры жаданні прэса ніяк не змагла замоўчваць гэтыя выпадкі, якія прынізілі краіну. Затым пайшла хваля паведамленняў аб карупцыі ў арміі, затым бяздарны штурм Грознага, калі трэба было здымаць міністра абароны. Але прэзідэнт так і не адважыўся зрабіць гэтага, не стаў адхіляць асабіста яму вернага чалавека, прадэманстраваўшы такім чынам, што ўжо кіруе, заўважае Я.Кузняцоў, **па законах племяннога клана**. Так Ельцын канчаткова страціў падтрымку прэсы, заўважае далей расійскі палітолаг, «з ходу наступіўшы на тыя ж граблі, што і Гарбачоў. Успомнім, што вялікі рэфарматар страціў падтрымку журналістаў пасля дзвюх падзей: разгону мірнай дэманстрацыі ў Тбілісі і штурму тэлецэнтра ў Вільнюсе».

Але што да гэтага, здавалася б, беларусам? Ну, перш-наперш, трэба дакладна ўсведамляць, да каго іх піхаюць у цесныя абдымкі. Затым усё роўна варта ведаць, што за працэсы адбываюцца ў суседзяў. А яшчэ — чаму гэта краіны Усходняй Еўропы так імкнуцца ўступіць у НАТО.

Расійскі палітолаг разглядае чатыры магчымыя сцэнары бліжэйшых падзей у сваёй краіне. **Сцэнарый першы** — найгоршы. Гэта калі пераможаны, але завалены трупамі салдат і мірных жыхароў Грозны становіцца толькі пачаткам буйнамаштабнай вайны. У канфлікт уступаюць іншыя каўказскія тэрыторыі. Ад Расіі адколваецца ўвесь Каўказ. Затым узнімаюцца іншыя аўтаноміі, напрыклад, Татарстан. Уходзяць Урал, Сібір і Далёкі Усход. У выніку Расія скукожваецца да памераў маскоўскага княства. Далей магчымыя розныя варыянты, прычым, як сведчыць сусветны вопыт, самыя нечаканыя. Адышоўшая тэрыторыя, прыкладам, якая-небудзь Канфедэрацыя паволжскіх народаў, рушыць вайной на белакаменную і гэтую вайну ўрэшце выйграе. У Крамлі сядуць гордыя сыны стэпаў, а цяперашняя эліта надоўга выключыць са свайго арсенала рускі шавінізм і пачне хваліцца татарскімі продкамі.

Фантастыка? — пытаецца расійскі палітолаг. — Але ж тое самае ўсяго тры гады здарылася ў іншай краіне — Эфіопіі, у якой была самая магутная ў Афрыцы армія. Ёсць яшчэ падобныя прыклады.

**Другі сцэнарый** — калі расійскі народ, прыніжаны, абураны вынікамі дзейнасці бяздарных кіраўнікоў, паспрыяе «палацаваму перавароту» і галоўнай мэтай будзе аб'яўлена адраджэнне нацыянальнай годнасці. Зноў тэрор і канцлагеры, усе сілы ідуць на аднаўленне баяздольнасці арміі, і пачынаецца вайна за аднаўленне СССР. Шляхам прымусовай рэінтэграцыі ствараецца агромністая, бедная і агрэсіўная дзяржава, якую да таго ж будзе раздзіраць комплекс непаўнавартнасці. Далей вайна сусветная?

**Трэці сцэнарый** — аптымістычны. Прэзідэнт зразумее, што канчаткова завёў краіну ў тупік, што яго абкружылі ілгуны і бездары, назначае новыя выбары, а народ, уцяміўшы, як на самай справе выглядае «апошні кідок на Поўдзень», выбірае не Жырыноўскага, а Гайдара ці Яўлінскага. Пачынаюцца перамовы з Дудаевым, Чачня атрымлівае шырокую аўтаномію, за ёй яшчэ той-сёй. Расія працягне сваю дзівосную хаду ў бок дэмакратыі да... наступнага крызісу.

**Чацвёрты сцэнарый** палітолаг лічыць найбольш рэальным. Гэта калі Чачню расійская армія забярэ коштам велізарнейшых страт усю, на штыхах саджае марыянетачную адміністрацыю, а паўстанцы адступаюць у горы і гадамі вядуць партызанскую вайну. Ваенны бюджэт яшчэ больш узрасце, пазачыняюць палову школ і бальніц, навука канчаткова сыдзе на нішто, але баяздольнасць арміі павысіцца, і яна возьмецца за былыя саюзныя рэспублікі. У тым выпадку, варта дадаць, калі іхняе кіраўніцтва будзе бяздарна марнаваць час у чаканні новага эсэсэраўскага раю, а не мацаваць уласную гаспадарку, еднасць свайго народа і неабходныя сувязі дзеля ўзаемападтрымкі з вольнымі краінамі. У такім выпадку, як заўважае палітолаг, «вельмі верагодна, што бешаная кругаверць падзей народзіць пяты, зусім незвычайны сцэнарый».

**Ул.Ас.**

---

*Замежжа* — *Замежжа*

# Гэльская мова не здаецца




Шасцёра дзетак у няўтульным прадзімным школьным калідоры ў Бродфардзе на шатландскім востраве Скай сабраліся купкай і жвава балбочуць аб нечым. Яны — прадстаўнікі этнічнай групы, якая знікае; таго нямногага, што засталося ад адной з галінаў старажытнай, калісь шырока распаўсюджанай у Еўропе кельцкай культуры. Мова, на якой яны гавораць, — гэльская.

Яшчэ зусім нядаўна яна была забароненая ў школах пад пагрозай пакарання. Па даных праведзенага ў 1981 годзе апытання насельніцтва, толькі 473 маленькія шатландцы гаварылі па-гэльску.

Але ж Скай быў калісьці сэрцам «Гэлтахда» — «краіны гэлаў». Шмат іх і сёння жыве на паўночным баку вострава. Гэльская культура магла знікнуць усюды — тут яна захоўвалася насуперак усяму.

Мэры Рос даводзіцца амаль штодзённа курсіраваць між Стафінам, дзе яна жыве, і Портры, дзе яна працуе ў кавярні. Яна распавядае, што наогул усе дзеці ў Стафіне ведаюць гэльскую, але адвыклі ад яе з таго часу, як ходзяць у школу ў Портры, дзе вучняў, якія гавораць па-гэльску, дражняць «вёскай». «Мне нічога, — кажа Мэры, і ў яе гаворцы чуюцца водгаласы гэльскай, — а некаторыя дзеці з Стафіна вельмі крыўдзяцца. Ды й мне самой цяпер лягчэй гаварыць па-англійску. Гэльская, напэўна, зусім знікне. Гэта, вядома ж, ганьба, але гэта нікога не турбуе».

Нават тутэйшыя жыхары старэйшага пакалення ставяцца да гэльскай мовы без асаблівага энтузіязму. «Гэта файная мова, — кажа Джон Макензі, селянін, брат якога мае краму ў Стафіне, — але я не ведаю, ці патрэбная яна цяпер».

Гістарычная гэльская мова ўзыходзіць да ірландскіх плямёнаў, што засялялі ў V стагоддзі Шатландыю. Яны перамаглі піктаў, якія гаварылі на блізкай валійскай мове кельцкай групы. Прыкладна ў XI стагоддзі гэльская стала нацыянальнай шатландскай мовай. Але заняпад яе быў няўмольны: у 1800 годзе ёй валодалі ўсяго 20 працэнтаў шатландцаў, у 1900 — 6 працэнтаў. Паводле звестак апошняга перапісу насельніцтва 1981 года, ледзь 2 працэнты жыхароў — каля 80 тысяч чалавек — валодалі мовай, якая была для іх калісь роднай.

У 60-я гады ўвага шырокага грамадства зноў была прыцягнута да старажытнай мовы, калі яе рашучыя прыхільнікі з поўдня пачалі рэгулярна прыязджаць у горную краіну на адпачынак і на выхадныя. Па дарозе яны замазвалі фарбай паказальнікі з англійскімі назвамі, замяняючы іх на гэльскія.

Адну з самых смелых спробаў неяк дапамагчы гэльскай мове прапанаваў правесці на Уісце «Міжнародны кельцкі кінафестываль». Але з гэтага нічога не атрымалася.

Тады ж у Глазга было заснавана Гэльскае кніжнае таварыства. Але яго сябры не здолелі знайсці ніводнай кнігарні з вялікім выбарам гэльскай літаратуры. Тады выкладчыкам і студэнтам-кельтолагам універсітэта з Глазга давялося купіць старэнькі аўтамабіль і вазіць кнігі па Гэбрыдах ад аднаго сялянскага двара да другога. Нягледзячы на сціплыя фінансавыя магчымасці, праца таварыства пайшла паспяхова, і цяпер яно нават замаўляе выпуск кніг на гэльскай мове.

Сэр Ян Нобл — банкір, судаўладальнік і прадпрымальнік з Эдынбурга — заснаваў гэльскі каледж з мэтай затармазіць адток насельніцтва. Штогод родныя мясціны пакідае амаль 90 працэнтаў выпускнікоў школ. Задачай каледжа было выкладанне не толькі эканомікі і інфарматыкі, але і кельцкай гісторыі і нават ігры на валынцы.

Прыехаўшы ў Сліт і наведаўшы халодным золкім ранкам каледж, размешчаны на тэрыторыі былой фермы, я сустрэў там толькі некалькі выкладчыкаў і яшчэ меншую колькасць навучэнцаў. Затое ўсюды стаяла новая мэбля і кампутары.

Па словах дырэктара каледжа Кормана Джыліса, было зрасходавана звыш 300 тысяч фунтаў, каб ператварыць яго ў міні-крэмніеву даліну. Хаця тут пакуль усяго 20 навучэнцаў, ён перакананы, што будучыня абяцае вялікія перамены. На яго думку, каледж проста апярэджвае час: яго стварэнне было хутчэй актам падзеі, чым розуму.

На востраве Скай ёсць і іншыя прыклады захавання падобных «сімвалаў веры». На ўсіх шыльдачках з назвамі вуліц двухмоўныя надпісы, а Шатландскі Банк у Портры называецца «Банка На Х-Альба». Сродкі масавай інфармацыі збольшага засталіся англамоўныя. Але ёсць і гэльскія газеты, а адна з праграмаў Бі-бі-сі з 1985 года вядзе радыёпраграмы на гэльскай мове.

Каронны нумар тэлебачання Бі-бі-сі Шатландыі — дастаткова прэтэнцыёзная праграма «Брэг», што выходзіць у эфір на гэльскай мове і з'яўляецца вельмі вычварнай сумессю поп-музыкі, турысцкіх сюжэтаў і рэпартажаў. Праграма, здаецца, карыстаецца поспехам, збіраючы, па даных спецыяльнага доследу, у сярэднім 200 тысяч гледачоў, — і гэта пры тым, што ў Шатландыі жыве ўсяго 80 тысяч гэлаў. Магчыма, што гэта сведчанне трыумфальнага вяртання гэльскай мовы. Сёння ў вячэрніх школах зноў некалькі тысяч шатландцаў штогод вывучаюць гэльскую. Але, нягледзячы на ўсе намаганні па захаванні мовы, яна як сапраўдны сродак зносінаў адступае на задні план.

«Групы гэльскай культуры складаюцца пераважна з навапрыбыўшых лонданцаў, якія ўбіраюцца ў спадніцы шатландскіх горцаў, чапляюць за вухам пучок пер'яў і пачынаюць вывучаць гэльскую, — гаворыць адзін з бродфардскіх выкладчыкаў. — А тутэйшую моладзь гэта не цікавіць. Гэльская мова для іх раўназначная нейкай мільёнагадовай мінуўшчыне».

**«Die Welt».**

КЛУБ АБІТУРЫЕНТАЎ

***Сёння на сустрэчу з абітурыентамі прыйшлі выкладчыкі Менскага педагагічнага каледжа Марыя Канус ды Іван Казлоўскі. Спадарыня Марыя нагадае пра некаторыя тыповыя памылкі, зробленыя абітурыентамі на леташніх уступных экзаменах у каледж.***

У мінулым навучальным годзе ўступныя экзамены па беларускай мове (дыктоўка) здавалі 508 былых навучэнцаў няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ. Веды, паказаныя імі на экзаменах, характарызуюцца наступным чынам: пяцёрак не было, «добра» атрымалі 126, «здавальняюча» — 112, «нездавальняюча» — 270 абітурыентаў (53 працэнты).

А тэксты дыктантаў былі складзены ў адпаведнасці з патрабаваннямі вучэбных праграм, узяты з твораў беларускіх пісьменнікаў, перыядычнага друку, зборнікаў дыктантаў. У педагагічны каледж паступалі ў выключнай большасці выпускнікі школ горада Менска і амаль ва ўсіх (за малым выключэннем) у пасведчаннях аб заканчэнні 9 класаў і ў атэстатах аб поўнай сярэдняй адукацыі адзнакі па беларускай мове былі чацвёркі і пяцёркі. Але аналіз экзаменацыйных работ паказаў, што веды большасці выпускнікоў не адпавядаюць патрабаванням, ацэнкі іх ведаў у школах завышаны.

Дрэнна засвоены курс арфаграфіі і сінтаксісу. Былі дапушчаны памылкі на правапіс галосных е, е—я, о, э—а; напісанне злучэнняў галосных іе, ые, ія, ыя ў корані слова. Асабліва шмат памылак на правапіс прыслоўяў, напісанне слоў разам, праз злучок, раздзельна, на ўжыванне вялікай літары, на правапіс звонкіх і глухіх зычных, лічэбнікаў, канчаткаў назоўнікаў і прыметнікаў.

Часта абітурыенты не ведаюць лексічнага значэння пэўных слоў, гістарычных імён, што паказвае на нізкі агульны кругагляд. Напрыклад, замест слова Вязынка пішуць Вязанка.

Нягледзячы на тое, што тэксты экзаменацыйных матэрыялаў не адрозніваліся складанасцю сінтаксічных канструкцый, амаль ва ўсіх работах былі дапушчаны пунктуацыйныя памылкі, а ў большасці работ іх было па 8-9 і больш. Асаблівыя цяжкасці былі ў пастаноўцы знакаў прыпынку ў бяззлучнікавым сказе, у адасабленні дзеепрыметных і дзеепрыслоўных словазлучэнняў, прыдаткаў, параўнальных зваротаў, пабочных слоў, а таксама ў складаназалежных сказах.

***Другі наш госць — Іван Казлоўскі прапануе тэкст дыктоўкі, які адпавядае патрабаванням да будучых студэнтаў педагагічнага каледжа.***

# Зямля запаведная

Полацк — самы старажытны на тэрыторыі Беларусі і адзін з самых старажытных і некалі магутных у славянскім свеце гарадоў.

На ўвесь свет грымела адсюль слава легендарнага князя Усяслава Чарадзея, апетага ў «Слове пра паход Ігаравы». Гэта па яго волі нашы таленавітыя продкі ў далёкім адзінаццатым стагоддзі ўзвялі Сафійскі сабор. Сёння гэта самы старажытны на Беларусі помнік дойлідства. Збудаваць такі велічны храм магло толькі вельмі магутнае і багатае княства, у якім былі створаны пэўныя ўмовы для развіцця матэрыяльнай і духоўнай культуры. Полацк даў першую ў гісторыі славянства жанчыну-асветніцу.

Палачанін Францыск Скарына — адзін з тытанаў думкі ўсяго еўрапейскага Адраджэння.

Крыху больш як праз стагоддзе з Полацка выходзіць выдатны грамадскі і культурны дзеяч, публіцыст Сімяон Полацкі.

Гэты горад вабіць да сябе архітэктараў і археолагаў, мастакоў і пісьменнікаў. Усіх тых, каго цікавіць мінулае роднага краю, жыццё і дзейнасць яго лепшых людзей. Вабіць багатай гісторыяй і маўклівымі яе сведкамі, натхняе на творчасць.

Тысячагадовы горад даўно цікавіць вучоных. Шмат захапляючых старонак яго гісторыі раскрылі Аляксееў, Данілевіч, Штыхаў.

Помнікі полацкай мінуўшчыны будуць служыць будучыні.

Практычная стылістыка

***Прапануем новую рубрыку. Тут мы будзем друкаваць матэрыялы, мэта якіх звярнуць увагу на памылковае, неадпаведнае нормам нашай мовы ўжыванне слоў, формаў, сінтаксічных канструкцыяў (выразаў, сказаў). Просім нашых чытачоў прысылаць свае заўвагі, прапановы, а таксама матэрыялы.***

# Ці ж нам Статут не ўзор?

Гартаю Статут Вялікага Княства Літоўскага... Гэтым разам мяне прывабілі словы: «А пісар земскі мае па руску літарамі і словы рускімі ўсе лісты, выпісы і позвы пісаць, а не іншым езыком і словы». Які прыгожы кніжны стыль! Пэўна ж не літаратурны, бо ўзор яго — побач:

*Полска квітнет лацінаю,*
*Літва квітнет русчызною,*
*Без той в Полсце не пребудзеш,*
*Без сей в Літве блазнем будзеш.*

Якая цудоўная мова! А гэта ж напісана на пачатку XVI стагоддзя!

А цяпер пагартайце адзін слоўнік-даведнік, выдадзены «Вышэйшай школай» пры канцы XX стагоддзя. Там вы прачытаеце ўзор стылю сучаснай беларускай мовы. *Зацікаўленасць да навакольнага свету. Разглядзець у мікраскоп бактэрый. Спелыя яблыкі абцяжарылі галіны старой яблыні. Акультурыць грушу-дзічку. Першыя спектаклі пераўзышлі ўсе спадзяванні.* Які гэта стыль? Навуковы? Кніжны? Канцылярскі? Размоўна-гутарковы? Я не адчуваю думкі ў гэтых сказах, не магу вызначыць, чыя ж гэта мова, якому стылю належыць? Верагодна, гэтыя сказы лічацца кніжнай мовай. Але ж і кніжная павінна з нечага выходзіць: з жывой мовы або з мовы справаводства, з мовы гаспадарскай канцылярыі ВКЛ.

Адкуль у Статут трапіла такая дасканалая мова? Не ўзнікла ж на пустым месцы? Яе не мог стварыць адзін чалавек. Не, хаця тады і былі надзвычай таленавітыя людзі — стваральнікі Статута, гэтага першага нашага зводу законаў, які з нявялікімі ўдакладненнямі дзейнічаў 300 гадоў. Даследнікі знайшлі тую крыніцу, адкуль бруяла плынь мовы Статута. Гэта — жывая мова XIII стагоддзя. Захавалася значная колькасць пісьмовых помнікаў, пераважна гандлёвых дагавораў і граматаў, складзеных у Полацку, Віцебску, Смаленску — на крывіцкіх абшарах. «Гэтыя дакументы, — сведчыць вядомы мовазнаўца Леў Шакун, — каштоўныя тым, што яны, у параўнанні з іншымі тагачаснымі пісьмовымі помнікамі, найбольш паслядоўна адлюстравалі жывую гаворку той пары». Прыкладам, Дагаворная грамата Смаленска, Віцебска і Полацка з Рыгай і Гоцкім берагам 1229 года. Арыентацыя складальнікаў на жывую народную мову выявілася, паводле меркавання згаданага даследніка, у будове асобных артыкулаў, у тэрміналогіі, канструкцыі сказаў. У гэтай грамаце няма царкоўнаславянскіх элементаў, у яе мове адбіліся фанетычныя і граматычныя з'явы, што былі ўласцівыя тагачаснай народнай мове, папярэдніцы сучаснай літаратурнай беларушчыны.

Грамата 1229 года — не адзіны помнік беларускамоўнага справаводства XIII стагоддзя. І гэты стыль удасканальваўся, адладжваўся, набываў новыя рысы. Не выпадкова беларуская мова сталася мовай канцылярыі не толькі Вялікага Княства, але і Польскага каралеўства (трапіла на каралеўскі двор разам з Ягайлам) ды Маскоўскай дзяржавы, якая на старабеларускай мове вяла дыпламатычную перапіску з еўрапейскімі краінамі.

Трэба арыентавацца на жывую народную гаворку — гэта разумелі стваральнікі граматы 1229 года. Гэтае правіла павінна быць вызначальным і для сучасных стваральнікаў беларускай «кніжнай» мовы.

Цяпер жа мовазнаўцы стараюцца калькаваць расійскую лексіку. А таму «кніжны» стыль беларушчыны нагадвае свайго адпаведніка расійскай мовы. Чытаю ў згаданым даведніку: *Дождж амачыў касцоў.* Які гэта стыль? Кніжны? Канцылярскі? Гутарковы? Літаратурны?

Гэты сказ не адпавядае патрабаванням «кніжнага» стылю, бо ў ім ужыта слова *абмачыў*, якое, відавочна, належыць да прастамоўнай лексікі. Нельга ўявіць, скажам, і загад, у якім быў бы такі сказ, бо ў дакуменце будуць перш згадвацца людзі, а не дождж. Скажам, касцы М. і Н. змоклі пад дажджом, прастудзіліся, а таму...

А што ўжо казаць пра гутарковы (размоўны) стыль. Ніхто з беларусаў ніколі не скажа: *Дождж абмачыў касцоў.* Можна пачуць: *Касцы вымаклі да ніткі. Дождж змачыў да ніткі...* Апроч таго, слова *абмачыць* у жывой мове азначае 'крыху намачыць, апусціўшы ў ваду' (так вызначана значэнне гэтага слова ў тлумачальным слоўніку — кніжны ці навуковы стыль?).

Не пазбаўлены недакладнасцяў і літаратурныя творы. А гэты стыль, здавалася б, мае пэўныя, строгія нормы. Прыкладам, чытаем. *Сярожа тым часам абабег* (павінна быць *аббег*) *хату і ўбачыў у двары Ленку Кудрэвіч.* У гэтым кантэксце слова *абабег* ужыта памылкова, без уліку ягонага значэння (абабягаць вакол нечага), а ў адпаведнасці з ужываннем расійскага слова *обежать*, якое мае тры значэнні: 1. *Обежать* — бегучы, абкружыць вакол нечага — па-беларуску **абабегчы** (ад абабягаць); 2. *Обежать* — бегучы, абмінуць штосьці — па-беларуску **аббегчы** (ад аббягаць); 3. *Обежать* — бягом ці проста хутка наведаць розныя месцы, не кружляючы вакол нечага — па-беларуску **абегчы** (ад абегаць). З экспрэсіўным адценнем, калі трэба падкрэсліць шматкратнасць дзеяння, ужываецца і форма прошлага часу дзеяслова *абабягаць — абабег, абабегла.* Калькуючы расійскае слова *обежать*, аўтар пададзенага сказа не ўлічыў, што ў беларускай мове для кожнага значэння ёсць адметнае слова.

**Пётра ПАШКАВЕЦ.**

*(Працяг будзе.)*

КУЛЬТУРА МОВЫ

# Хочацца абараніць...

Прыслухаемся... да прыназоўнікаў і злучнікаў, і так хочацца іх абараніць. Сапраўды, чаму ў апошні час у сінанімічных парах злучнікаў **і(й)—ды, або—альбо**; прыназоўнікаў **аб—пра, для—дзеля, паміж—між** некаторыя навукоўцы, выкладчыкі, выданні, радыё, тэлебачанне аддаюць перавагу другому варыянту? І робіцца гэта даволі настойліва, з мэтай усталявання толькі іх.

Звернемся ж да слоўнікаў, дапаможнікаў, а яшчэ лепш да літаратурных твораў. Там яны цудоўна існуюць побач. Вось прыклады:

*Мне сняцца сны **аб** Беларусі*
*(Купала).*

*Занімай, Беларусь маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад **між** народамі*
*(Купала).*

***Паміж** Польшчай і Расіяй,*
***Між** Літвой і Украінай*
*Полька беларуская*
*(Дранько-Майсюк).*

*Дрыжаць у золаце асіны,*
***І** гнуцца кісці верабіны*
*(Колас).*

*Там паволі, маркотна, ласкава*
*Спавівае ноч нівы **й** палі*
*(Н.Арсеннева).*

*Пад вяслом і шастом ласкава*
*плёхала ды булькала вада*
*(Брыль).*

Згадзіцеся, кожны са злучнікаў і з прыназоўнікаў ззяе толькі на сваім месцы.

А вось чытаем у «Нашым слове»: «радыйныя **ды** тэлевізійныя журналісты» (№ 8, 1995 г.). Надумана. Цяжка перш за ўсё для вымаўлення, так і просіцца «і»! Бо тут злучнік «**ды**» ўжываецца ў спалучальным значэнні (адпавядае «**і**»). Улічваючы, што сфера прымянення злучніка «**ды**», асабліва ў супраціўным і далучальным значэннях, шырокая, уяўляецца неабходным (ці мэтазгодным) якраз і даць яму прастору ў гэтых значэннях і не «дыдыкаць» без патрэбы.

Не магу не абараніць і прыназоўнік «**са**» (фактычна «**з**» перад збегам пэўных зычных). Паважаны Ул.Содаль лічыць яго русіфікаваным. Яго аргументы — гаворкі, і нават *«Што каб **зэ** злосьці ды сказаў пра гэта, гучыць лепш, чым «са злосьці»*. А як вымавіць *«з злосьці»*, *«з злучнікам»* і г.д.?

Бясспрэчна, народная мова — крыніца, аснова літаратурнай мовы. Што ж да гаворак, то яны ў кожнай вёсцы розныя. Адзін *«гавора»*, другі *«баіць»*, трэці *«казоў»*, а чацвёрты *«засаромеўса, бо слово не гарабей...»*. Ён любіць *«камы»*, а я *«кам'як...»*

Мяркую, што адной з прычын такой нялітасці нашых людзей да матчынай мовы і з'яўляецца няведанне літаратурнай і веданне толькі мясцовых гаворак. Прыехаўшы ў горад, многія саромеюцца сваёй гутаркі, сустракаюць да таго ж гарачы «адлуп», высмейванне як з боку гараджан, так і прадстаўнікоў іншых моў і дыялектаў. Не сакрэт, што нават у суседніх вёсках гэта рабілася спрадвеку і выклікала гонар, што вось у той вёсцы гавораць так і так. Не авалодаўшы ў свой час (а гэта была толькі школа) роднай літаратурнай мовай, яны хуценька пераходзяць на рускую, каб далучыцца да «культуры». І што гэта за мова, мы чуем кожны дзень.

У гэтых умовах задачай № 1 для ўсіх нас з'яўляюцца намаганні сваім прыкладам, працай садзейнічаць развіццю літаратурнай мовы. А на практыцы пачынаецца змаганне за такія дробязі, аб чым і гаварыць не хочацца. Можа, таму і прапановы Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы не знаходзяць належнага водгуку?

Камісіяй прадэкларавана неабходнасць у развіцці слоўніка беларускай мовы, асабліва тэрміналогіі (як гэта надзённа!), а ў выніковым дакуменце прапаноўваецца пашырэнне напісання мяккага знака, напісанне ненаціскнога **у** ў запазычаных словах і г.д. Усё другараднае.

Цалкам далучаюся да аргументаваных, дакладных і памяркоўных довадаў Э.Ялугіна ў артыкуле «Зноў аб правапісе». Не трэба заахвочваць моўны пурызм — нялітасць да асобных слоў, бо дрэнных слоў наогул няма, ёсць іх дрэннае ўжыванне.

Каб не здавалася, што я ў нейкай апазіцыі да Ул.Содаля, скажу, што лічу яго нататкі цікавымі і карыснымі. Яны прымушаюць думаць, працаваць, спрачацца, як бы падкідваюць сухія галінкі ў згасаючы агонь. Толькі каб полымя яго не праглынула і набыткі, а яшчэ горш, каб не выклікала жадання ісці сцяной на сцяну, бо гэта ўжо было, а змагацца мы любім: 70 гадоў з гакам змагаліся з чымсьці або кімсьці.

Наконт Гімна. Дазвольце, калі ласка, і мне выказацца. Бясспрэчна, Купала ёсць Купала, і «Маладая Беларусь» — цудоўны твор, але напісаны ён маладым Купалам. Мова яго выклікае сур'ёзныя заўвагі: шмат русізмаў (вызвала, абнімае, тапары, занімай)...

Мяркую, што сталаму Купалу гэта не спадабалася б...

**В.БРАЗОЎСКАЯ.**

# На памылках вучацца

Сказ будуецца з асобных слоў, як дом — з цаглінак. Калі між цаглінкамі няма змацоўваючага іх раствору, дом разбураецца. У сказе ролю гэтага змацоўваючага элемента адыгрывае лагічная сувязь паміж словамі. Асабліва важна, каб яна існавала між галоўнымі членамі сказа. На жаль, гэты прынцып вытрымліваецца не заўсёды, асабліва ва ўскладнёных сказах, у якіх ёсць некалькі дзейнікаў або выказнікаў.

> «200-я **ўгодкі** паўстання пад кіраўніцтвам Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, якое **адзначалася** летась, **выклікала** цэлы шэраг літаратурна-гістарычных публікацый».
>
> **«Добры вечар»**

Прыведзеная цытата дае прыклад сэнсавага недапасавання між галоўнымі членамі сказа. Два выказнікі — «адзначалася» і «выклікала» аднесены не да дзейнікаў «ўгодкі», а да слова «паўстання», якое з'яўляецца залежным словам у словазлучэнні, дзе ролю галоўнага слова выконвае дзейнік сказа «ўгодкі», а непасрэдна ў сказе з'яўляецца дапаўненнем. Перанос функцыі дзейніка на дапаўненне справакаваны дамінаваннем сэнсу слова «паўстанне» ў кантэксце артыкула, адкуль узяты сказ, і ў самім сказе.

> «А **размеркаванне** і **дапамога павінна аказвацца** не пад адзін грабянец — усім сёстрам па завушніцах, — а адрасна, мэтава, індывідуальна, каб жыццёвы ўзровень не апускаўся ніжэй калена».
>
> **«Літаратура і мастацтва»**

У апошнім прыкладзе маем наадваротную карціну — да двух дзейнікаў — «размеркаванне» і «дапамога» адносіцца выказнік «павінна аказвацца», які дапасуецца толькі да аднаго з дзейнікаў — «дапамога». Зрабіць гэтую памылку аўтара прымусіў няўдалы выбар слоўнага матэрыялу — бо «аказвацца» сапраўды можа толькі «дапамога», а «размеркаванне» — «адбываецца». Такім чынам, у сэнсавым «ланцужку» сказа дзейнік «размеркаванне» аказваецца «лішнім», адасобленым звяном.

Л.Р.

*Мікалай КРЫЎКО*

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

1. **ПЕРАЙСЦІ** (*да каго, куды;* пакінуўшы мінулых саюзнікаў, прымкнуць да другога лагера, групы і пад.) *Не знаю, Сенькава гэта заслуга ці не, але некалькі немцаў дабравольна перайшлі на наш бок* (Корзун). *Разбіты Сігізмундам мяцежны князь перайшоў на службу да Васіля III і памог яму амаль бяскроўна ўзяць Смаленск* («Полымя»), **ПЕРАБЕ́ГЧЫ** размоўнае *Баннік вырашыў так, што паліцыя — не так ужо і страшна: ён возьме зброю ў рукі і адразу перабяжыць да партызан* (Федасеенка). *Ён, Валуеў, паходзіў ад беларускага баярына Вала, што перабег на службу да маскоўскіх князёў яшчэ перад кулікоўскай бітвай* (Караткевіч), **ПЕРАКІНУЦЦА** разм., неадабральнае *[Камісараў:] — Выпусціць з турмы арыштаваных, гэты зброд адразу перакінецца на бок бандытаў* (Маўзон). *[Сяргей:] — Прызнаўся б сумленна і сядзеў бы ціха дзесь у шчыліне. Дык не, абавязкова нашкодзіць, прадаць трэба. Перакінуцца да ворага, здрадзіць і шкодзіць* (Машара), **ПЕРАМАХНУ́ЦЬ** разм., неадабр. *Адзін перад адным яго [спевака] хвалілі, і толькі на «драбніцу» на адну забылі: У час вайны вось гэты тэнарок Перамахнуў адразу ж на варожы бок* (Маеўскі), **ПЕРАМАХНУ́ЦЦА** разм., неадабр. *У акупацыю Харытон Рафаілавіч займаў пасаду дырэктара нейкай вясковай школы, а як бліжэй падышлі нашы, нейкім чынам перамахнуўся ў партызаны* (Сачанка). — *Незакончанае трыванне:* **Перахо́дзіць, перабяга́ць, перакіда́цца і перакідвацца, перама́хваць, перамахвацца.**

2. **ПЕРАЙСЦІ** (*куды,* перамяніць месца працы, вучобы або пасаду, род заняткаў) *Усё ён рабіў усур'ёз, акуратна. Толькі вялікай радасці ад той работы ў яго не было... Зразумела, чаму з такой ахвотай перайшоў аграном з канторы МТС у калгас* (Бялевіч). *Блізнюк збольшага расказаў сваю гісторыю: як пасля школы пайшоў у мараходнае вучылішча, як трапіў на Далёкі Усход, плаваў на падводных лодках, потым ажаніўся, перайшоў у запас і працуе на суднарамонтным заводзе* (Дамашэвіч). *[Валя:] — Няўжо ты не ведаеш, Міша, чаму я сама перайшла ў тваю групу?* (Брыль), **ПЕРАВЕ́СЦІСЯ** — *Чуў, Сцяпан Міхайлавіч. У штабісты перавяліся. — Перайшоў, брат. Папрасілі ў абкоме* (Мыслівец). *Пасля ён [Васіль] перайшоў на дрэнаж — там больш можна было зарабіць, перавёўся на Палік і не вярнуўся* (Пташнікаў). *На чацвёртым курсе [Дзіма] ажаніўся, перавёўся на вячэрняе, пайшоў працаваць* (Васілевіч). — *Незак.:* **Перахо́дзіць, перaво́дзіцца.**

3. **ПЕРАЙСЦІ** *на каго-што, у каго-што* (памяняць веру, прыняць другое веравызнанне) *Гэты вёрткі, танклявы мужчына служыў капрэці ў панскім войску капралам, дзеля чаго нават і перайшоў на каталіка* (Брыль). *Сам [Вітаўт] асабіста пераходзіў з язычаства на праваслаўе, потым двойчы на каталіцызм, у залежнасці ад палітычных абставін* («Полымя»), **ПЕРАВЯРНУЦЦА** *на каго, у каго Гэты малады юрыст за свой кароткі век паспеў з немца ператварыцца ў рускага, а потым у паляка, з лютараніна перавярнуўся на католіка, з праведніка ў пракурора* (Машара), **АБЯРНУ́ЦЦА** *у каго-што Абярнуцца ў другую веру.* — *Незак.:* **Перахо́дзіць, пераваро́чвацца, абаро́чвацца.**

4. **ПЕРАЙСЦІ** (*на што, да чаго;* пра размову, думкі і пад.: прыняць іншы напрамак, закрануць іншую тэму; пра чалавека: пакінуўшы адну тэму, прадмет гаворкі, пачаць гаварыць пра каго-, што-н. іншае, даць думкам, увазе іншы напрамак) *Гутарка перайшла на палякаў* (Колас). *Размова перайшла на другое* (Мележ). *Раптам думка пераходзіць на старшыню калгаса «Барацьбіт»* (Пальчэўскі). *Ніканор пераходзіць на іншую гутарку* (Бядуля). *Ён моцна крычаў на ўсю хату пра нейкае жыццё там, упэўніваў сам сябе, што там бы ён не пасівеў бы гэтак яшчэ... Пасля зноў пераходзіў на тутэйшыя справы* (Чорны), **ПЕРАКЛЮЧЫ́ЦЦА** *Думкі Зарыны Сымонаўны пераключыліся на дачку, на Зоську — так завуць Соню ўсе дома* (Марціновіч). *Мозг [Матвейцава] адключыўся ад усяго гэтага [ад сваркі з жонкай], яго не цікавіла, не турбавала нічога, што існуе цяпер за сценамі рэстарана, увага цалкам пераключылася толькі на рэстаранны люд і тутэйшае шумнае і п'янае яго жыццё* (Хомчанка). *Мімаволі гаворка пераключаецца на бацьку* (Бачыла), **ПЕРАКІНУЦЦА** разм. *І гаворка адразу перакінулася на Таццяну* (Пальчэўскі). *З хатняга размова перакінулася да спраў у МТС, да Далгушына* (Авечкін). *[Вера Андрэеўна] бачыла, што спрэчка перакінулася на іншае, адышла ад галоўнага, што так хвалявала яе* (Арабей). *Мае думкі перакінуліся на Міколу, потым на Іру* (Крыга). *Дзям'ян глянуў на яго [сына] і зноў усміхнуўся тою самаю ўсмешкай... — Што — млын робіш, сынок? Ды, бяда, няма чаго малоць... Рабі, рабі, хлопча... — І раптам перакінуўся на другую тэму* (Пестрак), **ПЕРАСКО́ЧЫЦЬ** разм. (без бачнай лагічнай сувязі перайсці да іншай тэмы, прадмета гаворкі, думкі) *Потым размова пераскочыла на іншую тэму...* («Работніца і сялянка»). *Спачатку [Круглікаў] уважліва слухаў, але хутка думкі яго пераскочылі ў эпоху 20-га года* (Сташэўскі). *Расказваць было пра што, і Люда часта пераскоквала з аднаго на другое, спяшаючыся не прапусціць чаго-небудзь вартага ўвагі* (Хадкевіч). — *Незак.:* **Перахо́дзіць, пераключа́цца, перакіда́цца і перакідвацца, пераско́кваць.**

5. **ПЕРАЙСЦІ** (рысу, мяжу і пад.: выйсці за межы дазволенага, парушыць што-н. усталяванае, прадпісанае) *Перайсці межы прыстойнасці. Яе захапленне катамі пераходзіць усялякія межы* (Бядуля). *Дзедава фантазія трохі разгулялася і свавольна пераходзіла межы рэальных магчымасцей* (Колас), **ПЕРАСТУПІЦЬ** (рысу, мяжу і пад., а таксама закон, правіла, абавязак і пад.) *Ганна раптам паспрабавала пераступіць мяжу, знарок весела ўсміхнулася* (Мележ). *Можа, каб не падпіла, не адважылася б яна [Акіліна] выйсці ў круг, пераступіць тую мяжу, за якую даўно не пераступала* (Шкраба). *Я мог пагарачыцца, мог наламаць дроў, але ніколі не пераступаў чалавечых законаў* (Шамякін), **ПЕРАСЯГНУ́ЦЬ** (рысу, мяжу і пад.) *Эгаізм дзяўчыны перасягнуў усе межы* (Пятроў), **ПЕРАВЫ́СІЦЬ** (рысу, мяжу і пад.) *Блецькава нянавісць да яе [Амілі] перавысіла.. ўжо усялякія межы, і нарэшце яны ўжо бадай што гаварылі адно з адным* (Чорны). — *Незак.:* **Перахо́дзіць, пераступа́ць, перасяга́ць, перавыша́ць.**

6. **ПЕРАЙСЦІ** разм. (*за што, на што;* перавысіць якую-н. часавую, колькасную мяжу) *Гарасіму Жукоўскаму перайшло за пяцьдзесят* (Чарнышэвіч). *Было позна, ужо на дванаццатую перайшло* (Лобан), **ПЕРАСЯГНУ́ЦЬ** (*за што, што;* часта *безасабовае*) разм. *Дзеду ўжо перасягнула за восемдзесят,* **ПЕРАВАЛІЦЬ** часцей *безас.*: разм., фамільярнае *Гады перавалілі на пяты дзесятак. Чалавек, якому перавaліла за сорак, адчуў раптам, што моцна хвалюецца, сэрца стукае так, што ўдары яго балюча аддаюцца ў скронях* (Шамякін), **ПЕРАСТУПІЦЬ** разм. *Даўно за поўдзень свайго веку пераступіў Піліп Сямёнавіч* (Бялевіч), **ПЕРАКІНУЦЦА** звычайна *безас.*; разм. *Старому перакінулася на восьмы дзесятак, аднак быў ён яшчэ бадзёры* (Валкадаеў). — *Незак.:* **Перахо́дзіць, перасяга́ць, перава́льваць, пераступаць, перакіда́цца і перакідвацца.**

## Гісторыя моваў на Беларусі

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Беларуская мова

*(Працяг.)*

Справа ў тым, што навучанне грамаце ў старажытнасці вялося па псалтыру (хощеши ли умети граматику, по-русқы говорячи, грамоту, еже добре чести и мовити учить, знайдеши в зуполной Бивлии, Псалтыру, чти ее (Ф.Скарына). Першыя заўвагі аб беларускім правапісе былі зроблены славенскім вучоным Адамам Багорычам у XVII ст. Паколькі псалтыр як кніга царкоўная быў пераважна на царкоўнаславянскай мове, то архаічныя правапісныя прыёмы пашыраліся з гэтай кнігі і на беларускае пісьмо. Пры ўзнаўленні гукавога складу старажытнага перыяду гісторыі моў у сучасны момант карыстаюцца не толькі пісьмовымі помнікамі на гэтых мовах, якія захаваліся, але і разнастайнымі іншымі гукавымі сістэмамі сучаснага стану мовы, асабліва яе дыялектаў, сведчаннямі рыфмы і рытму, дадзенымі параўнальнагістарычнай фанетыкі, запазычаннямі ў даследуемую мову з іншых моў і, наадварот, з яе ў іншыя мовы і г.д.

Таму, напрыклад, калі мяккіх шыпячых няма ні ў сучаснай літаратурнай мове, ні ў народных гаворках, то іх не было і ў старабеларускай мове. Умоўнасць кірылічнага пісьма становіцца відавочнай, калі правесці просты эксперымент: прачытаць адны і тыя ж словы, якія пісаліся ў старажытны перыяд аднолькава, па-беларуску, па-ўкраінску і па-руску, на кожнай з трох гэтых моў. У выніку, напрыклад, слова голова старажытныя беларусы чыталі галава (з фрыкатыўным г), украінцы — голова (з фрыкатыўным г), рускія галава (з выбухным г); слова день беларусы — дзень, украінцы — дэнь, рускія — день; слова все беларусы — усе, украінцы — усэ, рускія — все; слова робити беларусы — рабіці, украінцы — робыты, рускія — рабити; слова несёшься беларусы — нясесься, украінцы — нэсэшся, рускія — несёшься; слова солнце беларусы — сонца, украінцы — сонцэ. Строга індывідуальнае значэнне ў кожнай мове маюць і літары лацінскай азбукі. Так, слова land англічанін прачытае лэнд, швед — лянд, нарвежац — лянн; слова kilometer немец прачытае кілёмэтэр, швед — шілёмэтэр; нарвежскае, шведскае mus на самай справе вымаўляецца муус (мыш), шведскае fem — фэмм (пяць), шведскае bonde — бундэ (селянін), шведскае gift — йіфт (жанаты), шведскае älg — эльй (лось), шведскае varg — варй (воўк); шведскае morgon — моррон (раніца), шведскае karl — коль (мужчына); літоўскае medis — мядзіс (дрэва); славенскія był, vołk вымаўляюцца, як па-беларуску, быў, воўк (у гэтай мове таскама ёсць ў нескладовае). Таму няма ніякіх падстаў лічыць, што выяўленыя ў старабеларускіх пісьмовых помніках словы з ненацiскным о (один, вода, говорити, дорога, здоровье, комора, продажа), з е, і, ю, я пасля шыпячых, ц і р (чистый, щирость, горети, цена), з в перад зычнымі (впередъ, вкинути, в молитве), з л пасля галосных (виделъ, седелъ, писалъ, волкъ), з е, і, ю, я пасля д, т (дети, тихо, дякло) не вымаўляліся, як у сучаснай беларускай літаратурнай мове. Правільнасць такога меркавання пацвярджаецца супастаўленнем беларускіх тэкстаў, напісаных кірыліцай, з тэкстамі таксама беларускімі, але напісанымі іншым пісьмом, не звязаным з царкоўнаславянскай арфаграфічнай традыцыяй (у сярэдзіне XVI ст. перапісваць па-беларуску арабскім пісьмом пачалі свае богаслужэбныя кнігі беларускія татары, гл. аб гэтым ніжэй, у раздзеле «Цюркскія і арабская мовы»). У гэтых тэкстах прыкметная большая ступень прыстасавання пісьма да перадачы асаблівасцей жывога вымаўлення. Вось урывак з хамаіла XVII ст. (у кірылічнай транскрыпцыі): «Гету дуу от семидзесат конских фароб при сабе насиц гежа. Гету дуу от семидзесат бед пріи собе насиц. Хто би гету дуу насив век долгий будзец. Гету дуу от неприйателев насиц гожа (Лейпц. — 280, транскрыпцыя кірыліцай А.Антановіча). Па сведчанні сучасніка — сербскага моваведа Ю.Крыжаніча, у жывым беларускім вымаўленні XVII ст. ужо не было старажытных спалучэнняў гы, кы, хы. Адпаведныя словы вымаўляліся выключна з ги, ки, хи: дикий, дороги, тихий. Такім чынам, старабеларуская вусная мова мацней адрознівалася ад пісьмовай, чым зараз, і была блізкай да сучаснай. Тэндэнцыяй да дэмакратызацыі, стратай ранейшых сувязей з царкоўнаславянскай мовай старабеларуская пісьмова-літаратурная мова прынцыпова адрознівалася ад тагачасных рускай і ўкраінскай моў, якія ўсё яшчэ знаходзіліся з царкоўнаславянскай мовай у сітуацыі дыглaсіі, г.зн., былі з ёю толькі рознымі тыпамі адной пісьмовай мовы. Таму ўжо ў старажытнасці беларуская мова называлася «простая мова», «мова попросту».

Старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім. Гэта было абумоўлена перавагай славянскага насельніцтва і славянскіх зямель у дзяржаве (напрыклад, тэрыторыя, заселеная летувісамі, складала ўсяго толькі 1/15 тэрыторыі княства). Аб дзяржаўнасці старабеларускай мовы сведчыць перш за ўсё выкарыстанне яе ў сферы дзяржаўнага кіравання. На ёй напісаны ўсе кодэксы законаў ВКЛ — статуты, прывілеі (Вісліцкі статут, Судзебнік Казіміра Ягелончыка, Статут Вялікага Княства Літоўскага ў трох рэдакцыях 1529, 1566 і 1588 гадоў, Спосаб праў трыбунальскіх і г.д.). Ужыванне беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай гарантавалася, акрамя статутаў («А писаръ земъский маеть по-р-ску литерами і словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншым языкомъ и словы»), рашэннямі Люблінскага сейма 1569 года, а таксама спецыяльнымі каралеўскімі прывілеямі пазнейшага часу. Таму пераважна на беларускай мове напісаны акты Літоўскай метрыкі, якая мела больш за 600 тамоў. У XVI і XVII стст. на беларускай мове вялася дакументацыя ў гарадскіх управах, магістратах і магдэбургіях, у гарадскіх земскіх і замкавых судах, яна выкарыстоўвалася ў дыпламатычнай і прыватнай перапісцы.

*(Працяг будзе.)*

## ЧЫТАЛІ?

# За што ўзнагароджваюць «Ордэнам Льва і Сонца»?

Каятана Касовіча, пра якога пойдзе гаворка ў гэтай нататцы, ужо ведаюць нашы чытачы. Летась, да 180-годдзя славутага санскрытолага, мы нагадалі пра нашага земляка, які ведаў старажытную яўрэйскую, грэцкую, лацінскую, а таксама новагрэцкую, нямецкую, французскую, італьянскую, англійскую, польскую, чэшскую, арабскую. Хай не дзівіць вас, што не згадана родная мова Каятана Касовіча — беларуская. Яе сын уніяцкага святара ведаў дасканала. У каментары да надрукаваных у «Молве» некалькіх нашых народных песень Касовіч пісаў: «...беларуская мова ёсць нешта іншае, як польская... Сапраўдная беларуская мова ёсць, як можна бачыць з гэтай песні, зусім не польская. Роўным чынам яе нельга лічыць і рускай».

Наш зямляк быў не толькі паліглотам. Прафесара санскрыту Пецярбургскага універсітэта Каятана Касовіча згадваюць як цудоўнага педагога, які выхаваў некалькі пакаленняў элліністаў, санскрытолагаў, усходазнаўцаў. Вучнем вучняў ягоных вучняў, верагодна, з'яўляецца знаўца санскрыту і хецкай мовы Генадзь Іосіфавіч Даўгяла, выпускнік Ленінградскага універсітэта, аўтар брашуры «К.А.Касовіч: вядомы і незнаёмы», якую выдала Агенцтва «Геронт-А» Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. З гэтай цікавай кніжкі можна даведацца, прыкладам, што «Каэтан Андрэеў, сын Касовіч грэка-уніяцкага веравызнання... вучыўся з 3 верасня 1824 года па 4 красавіка 1830 года ў Полацкім вышэйшым піярскім вучылішчы», дзе, відаць, і набыў грунтоўныя веды ў старажытных і новых мовах. Ды і па агульнай падрыхтоўцы — згадваецца ў брашуры — «казённакоштныя» беларусы, якія сталі вучыцца ў Маскоўскім універсітэце (у іх ліку Касовіч ды іншыя выхаванцы полацкіх піяраў). Значна пераважалі сваіх маскоўскіх сяброў».

Пасля заканчэння універсітэта Касовіч меў падставу ехаць працягваць вучобу за мяжу. Ды перамовы цягнуліся амаль год... Адзін з лепшых выпускнікоў мусіў у гэты час займацца рэпетытарствам. «Прафесары ж універсітэта з павагай схіляюцца перад ім і цягнуць яму рукі, але ўсяляк загароджваюць яму шлях ва універсітэт, нагаворваюць на яго графу Страганаву...» Таму пасля працы ў Цвярской і Маскоўскай гімназіях Касовіч усё ж вымушаны быў перабрацца ў «паўночную сталіцу». Там наш зямляк атрымлівае (па чарзе) месца хатняга настаўніка (плата 5 тыс. рублёў асігнацыямі!), пасаду рэдактара Імператарскай публічнай бібліятэкі (цяпер імя М.Я.Салтыкова-Шчадрына) і ў 1859 годзе нарэшце становіцца прафесарам Пецярбургскага універсітэта.

Тут шмат значыла яго сяброўства з вядомымі філолагамі-мовазнаўцамі, вядомымі паэтамі і журналістамі. Генадзь Іосіфавіч Даўгяла згадвае шматлікіх знаёмых і сяброў нашага земляка: апроч М.П.Пагодзіна, М.І.Надзеждзіна, К.С.Аксакава, В.Р.Бялінскага, М.Г.Чарнышэўскага, М.А.Дабралюбава, І.І.Сразнеўскага, К.Я.Грота, П.А.Плятнёва, вядомых паэтаў А.М.Майкава (яго Касовіч вучыў старагрэцкай мове), В.А.Жукоўскага, а таксама і міжнароднага журналіста, уласнага карэспандэнта некаторых расійскіх газет Мікалая Васільевіча Берга. Гэты невядомы нам сябра Каятана Касовіча быў, відаць, неардынарным чалавекам: у час італьянскага вызвольнага паўстання Берг стаў блізкім сябрам Гарыбальдзі, а ў 1863—64 гадах гэты журналіст быў сярод антыцарскіх беларускіх паўстанцаў і напісаў пра гэта некалькі кніг (дарэчы, Берга вучыў Каятанаў брат Ігнат Касовіч).

Дык, скажыце, ці магу я ўстрымацца, каб не прасіць шаноўнага спадара Генадзя Даўгялу пісаць вялікую кнігу, дакументальную ці, як кажуць, мастацкую, пра Каятана Касовіча? Такая кніга магла б стаць адной з самых цікавых у будучай — Выслухай нас, Божа! — серыі «Беларусы — свету».

У кнізе пра Каятана Касовіча я хацеў бы прачытаць і пра тое, як наш зямляк «у Лондане, у Брытанскім музеі, знайшоў вельмі старажытны спіс Нестаравага летапісу, напісаны уставам (ці не беларускім? — **З.С.**) з юсамі», і гэты спіс, і «не зусім ардынарны пераклад папулярнага эпізода з «Махабхараты» — «Паляўнічы і пара галубкоў». Я хацеў бы даведацца, як Каятан Касовіч дамогся «самага значнага навуковага поспеху — выдання поўнага корпуса перакладаў клінапісных надпісаў Іранскай дынастыі Ахеменідаў». Відаць, за гэты навуковы подзвіг вядомага і незнаёмага беларуса ўшанавалі персідскім «Ордэнам Льва і Сонца».

І яшчэ б хацелася, каб шаноўны аўтар будучай цікавай кнігі забыўся пра існаванне справаздачы (ці ўспамінаў) нашага земляка, вядомага арабіста О.І.Сянкоўскага, які інспектаваў Полацкае вышэйшае піярскае вучылішча і вымушаны быў прызнаць узровень адукацыі ў гэтай навучальнай установе за «вельмі нізкі». Прыклад Каятана Касовіча, Максіміліяна Маркса ды іншых (можа і брата — Ігната Касовіча) сведчыць не на карысць меркаванню царскага інспектара. Верагодна, што навучанне ў згаданай установе было на такім жа высокім узроўні, як і ў іншых піярскіх школах на Беларусі, дзе выхавалі Андрэя Тадэвуша Касцюшку, Ігната Дамейку — нацыянальных герояў... А тое, што іх імёны сама перш за ўсё згадваюцца ў спалучэнні з назвамі іншых краін, — гэта ўжо не піяры вінаватыя.

Здзіслаў СІЦЬКА.

*Вам, школьнікі!*

***Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

## ГАМЕР

(канец IX—пачатак VIII ст. да н.э.?)

Пад імем Гамер вядомы легендарны паэт-пясняр, якога ў антычным свеце і ў пазнейшы час лічылі аўтарам самых старажытных помнікаў грэцкай літаратуры — вялікіх эпічных паэм «Іліяда» і «Адысея». Жыў Гамер, відаць, у канцы IX—пачатку VIII ст. да н.э., але і факт яго жыцця, і асабліва факт яго аўтарства «Іліяды» і «Адысеі» дагэтуль аспрэчваюцца.

Творчасць Гамера зрабіла вялікі ўплыў на літаратуру пазнейшага часу, асабліва на еўрапейскую. У Беларусі яго творчасць ведалі даўно. Сімяон Полацкі называў яго «праслаўным Амірам». У пачатку 30-х гадоў нашага стагоддзя «Іліяду» на беларускую мову пераклаў Браніслаў Тарашкевіч (да нас дайшлі толькі два ўрыўкі гэтага перакладу), яшчэ раней фрагменты гэтага твора былі перакладзеныя Юльянам Дрэйзіным. Урыўкі з «Адысеі» загучалі ў беларускім перакладзе Анатоля Клышкі (1977).

Літаратура:

Барычэўскі Я. Сучаснае ў старажытным (урывак) // Уводзіны ў літаратуразнаўства. Хрэстаматыя. — Мн., 1991. — С. 284—285.
Гомеровский эпос. Гомеровский вопрос // Лапидус Н.И. Античная литература. Мн., 1986. — С. 14—25.
Тахо-Годи А.А. Гомеровский эпос // Зарубежная литература: пособие для факультативных занятий в старших классах средней школы. — М., 1972. — С. 9—13.
Лосев А.Ф. Гомер. — М., 1960.
Bowra C.M. Homer. — London, 1972.

## Сусветная літаратура ў школе

### VIII клас

### *Адысея*

З песні XI

[Спатканне Адысея ў Аідзе[1] з ценем роднай маці]

/.../ Тут да мяне і наблізіўся прывід памерлае маці,
Дух Антыклеі[2], дачкі Аўталіка, вялікага сэрцам.
Маці жывой пакідаў, калі плыў у святы Іліён я.
Глянуў цяпер на яе і ад жалю заліўся слязамі.
Ды хоць і моцна журыўся, але да крыві набліжацца
Першай не даў ёй, пакуль у Тэйрэсія ўсё не спытаўся.
(..........................................................................)
Я ж усё там быў, чакаў, аж пакуль не прыйшла мая маці,
Чорнай крыві напілася. І, тут жа, мяне апазнаўшы,
Загаласіла яна, і казала крылатае слова:
«Сыне мой, як ты патрапіў у тую падземную цемру,
Быўшы жывым? Бо нялёгка ўсё гэта жывому пабачыць,
Нас падзяляюць магутныя рэкі, жахлівыя плыні,
А сама больш Акіян[3], — праз яго аніяк перабрацца
Пешы не зможа, хіба толькі мае трывалае судна.
Ці не з-пад Троі сюды, пасля доўгіх блуканняў на моры,
Разам з сябрамі і суднам дабраўся? І ўсё яшчэ, пэўна,
Ты не даплыў да Ітакі і жонкі ў гасподзе не бачыў?»
Так да мяне прамаўляла, і я адказаў ёй на гэта:
«Любая маці! Патрэба мяне прывяла да Аіда:
Мусіў пра ўсё распытаць я Тэйрэсія Фіўскага душу.
Бо і яшчэ не даплыў да Ахеі, яшчэ не ступалі
Ногі мае па бацькоўскай зямлі, — у пакутах блукаю
З часу таго, як паплыў на чале з Агамемнанам слаўным
Пад Іліён, што багаты на коней, — з траянцамі біцца.
Ну, а цяпер ты сама раскажы, толькі шчырую праўду:
Кера[4], якая цябе суняла смуткавейнаю смерцю?
Доўгая немач? Ці гэтая Лучніца мо, Артэміда[5],
Ціха прыйшоўшы, ласкавай стралою цябе загубіла?
І раскажы мне пра бацьку, пра сына, якіх там пакінуў, —
Ці маю ўладу трымаюць? Ці, можа, валодае ёю
Хто-небудзь іншы цяпер, бо ўжо кажуць, што я не вярнуся?
І раскажы мне пра жонку, пра думкі яе і намеры:
Ці ўсё пры хлопцу жыве і надзейна пільнуе набытак,
Ці, можа, замуж яе ўзяў хто-небудзь са знатных ахейцаў?»
Так я прамовіў, і маці шаноўная мне адказала:
«Сэрцам цярплівым чакае цябе і да гэтага часу
Жонка ў гасподзе тваёй. У няспынным сумоце і горы
Доўгія ночы і дні яе сходзяць у слёзах і жальбах.
Не пераняў аніхто твае ўлады пачэснай. Спакойна
Там на зямлі Тэлемах уладарыць. І з роўнае долі
Ладзіць застоллі, як годна асобе, што суд учыняе.
І да сябе яго ўсе запрашаюць. А бацька ўсё там жа,
Горад пакінуў, дамуе ў сялібе. Ні добрага ложка,
Ні ў яго коўдры, ні мяккіх падушак, ні ўзорных каберцаў.
Зімняй парою начуе са слугамі разам у доме,
Лёгшы на попел, — бліжэй да агню; лахманы нацягнуўшы.
А як наблізіцца лета, а там і ўрадлівая восень,
У вінаградніку выбера месца на спадзістым схіле,
Кучу апалага лісця сабе награбе на пасцелю.
Сумны ляжыць там, і жаль усё больш прараствае ў сэрцы.
Тужыць па сыне, чакае...»

**Пераклад са старагрэчаскай Анатоля КЛЫШКІ.**

[1] Аід — у грэцк. міфалогіі падземнае царства.
[2] Антыклея — Адысеева маці.
[3] Акіян — міфічная рака, што акаляе зямлю.
[4] Кера (эрынія) — багіня зла, увасабленне смерці.
[5] Артэміда — багіня, дачка Зеўса і Леты.

***Рупліўцы***

*(Заканчэнне . Пачатак на с.3.)*

# *Васіль ЛІЦВІНКА:* «У фальклоры ёсць магія»

нымі за гэту справу парабіў генералаў са штаба арміі — па аднаму на кожную губерню.

**— Якая была мэта?**

— А такая: што не зрабіў рускі штык і пятля Мураўёва-вешальніка, тое даробіць рускае пяро і руская школа. Гэта была спроба татальнай дэнацыяналізацыі беларусаў.

**— Якія аб'ектыўныя вынікі?**

— І дрэнныя, і добрыя. Добра тое, што зараз мы маем па кожнай губерні «Северо-Западного края» грунтоўныя выданні П.Баброўскага, І.Зялінскага, А.Карэвы, М.Цэбрыкава, што таксама ляглі ў падмурак нашага адраджэння. Як кажуць, не было шчасця, дык няшчасце дапамагло.

**— У рэальным плане гэта азначала, што, адраджаючыся сам, фальклор паслужыў фармаванню літаратурнай мовы і станаўленню новай беларускай літаратуры. Удзельнікі гэтага працэсу — Я.Купала, Я.Колас, М.Багдановіч, М.Гарэцкі, В.Ластоўскі, Я.Лёсік, А.Гарун і іншыя пісьменнікі; беларускія выданні на чале з «Нашай нівай», шматлікія энтузіясты-асветнікі і патрыёты. Гэта таксама азначала, што фальклор адраджаў нацыянальную самасвядомасць, спеліў ідэю вярнуць Бацькаўшчыне страчаную дзяржаўнасць. Вядома, чым гэта ўсё скончылася.**

— Згадаю дзеля справядлівасці Ігната Буйніцкага, якога Вы не назвалі і які са сваім вандроўным тэатрам адраджаў на Беларусі народнае мастацтва. Яшчэ трэба памятаць пра кароценькі ў часе, але вельмі плённы перыяд адраджэння ў 20-я гады, калі пад яго яскравым сонцам нечакана плённа расцвілі навука і культура, усе загаварылі па-беларуску, а фальклорна-этнаграфічныя і археалагічныя экспедыцыі калясілі па ўсяму краю. Фальклорную камісію Беларусі ўзначальваў сам Якуб Колас.

**— Тым больш страшным і пачварным выглядае тое, што адбылося пазней, а менавіта татальнае вынішчэнне беларускасці ва ўсіх сферах жыцця і на ўсіх узроўнях — дзяржаўным, нацыянальным...**

— І дадам — на народным. Усё пачалося з раскулачвання і знішчэння гаспадароў. Бо ў сялянскіх сем'ях было так: усё традыцыйнае перадавалася ад бацькоў да дзяцей. Дэнацыяналізацыя на ўзроўні гаспадароў перарывала народныя традыцыі. Працэс адраджэння перапыніўся на добрыя сорак гадоў. З трыццатых да сямідзесятых усталявалася «зона маўчання» ў духоўным жыцці народа.

**— І ў фальклоры таксама?**

— У пяцідзесятыя гады маем пробліск святла: выходзяць «Беларускія народныя песні» ў трох тамах Рыгора Шырмы, які ўсё жыццё збіраў і даследаваў музычны беларускі фальклор, і «Песні беларускага народа» Генадзя Цітовіча, музыказнаўца і этнографа.

Эпоха рэнесансу беларускага фальклору бярэ пачатак з 70-х гадоў — дзякуючы магутным высілкам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, які распачаў цяпер ужо 42-томнае выданне Зводу «Беларуская народная творчасць». Сёння гэтыя тамы на паліцы перад вамі. Скажыце, які яшчэ народ можа пахваліцца такім багаццем? Ніякі! А гэта ж сведчанне высокай культуры.

Сучасны этап адраджэння фальклору пачынаецца з краху імперыі, якая патрабавала падпарадкаванасці і клёнчання перад «белокаменной». Памятаеце, як Кебіч поўзаў перад ёй на каленях, а заадно і перад мітрапалітам Філарэтам? Нават у хрысціянства кінуўся — сам антыхрыст, і ў праваслаўе — сам каталік. Дарэчы, на ўстаноўчым з'ездзе партыі «Хрысціянска-дэмакратычны выбар» прыгожа прагучала думка, што хрысціянская ідэя павінна раўназначна спалучацца з дэмакратычнай ідэяй, нацыянальнай і народнай па сваёй сутнасці. Галоўнае, каб царква выхоўвала на Беларусі не проста хрысціян, а хрысціян-беларусаў, была зарыентавана на нацыянальныя інтарэсы дзяржавы. Як дадатны момант адзначу, што хрысціянства хораша праявілася ў калядных песнях і ў батлейцы. Усе батлеечныя спектаклі ідуць на нацыянальным узроўні, але пра цудоўнае нараджэнне Хрыста. Хай жыве хрысціянства ў народзе, але пры ўмове, што не будзе душыць праяўленні нацыянальнага. Дарэчы, адна з праяў адраджэння фальклору — узнікненне шматлікіх маладзёжных фальклорных калектываў.

**— Скажыце, фальклор існуе на агульнанацыянальным узроўні?**

— Ні ў якім разе. Літаратурная мова — уніфікаваная, нарміраваная, — існуе на агульнадзяржаўным узроўні. Прафесійнае мастацтва існуе на агульнадзяржаўным узроўні, фальклор жа ў сваёй першаснай аснове — рэгіянальны. Існуе фальклор толькі пэўнай мясцовасці, рэгіёна, вёскі, фальклор кожнай спявачкі ў рэшце рэшт. Мы яго называем першасным, аўтэнтычным.

**— А саракадвухтомны Звод помнікаў вуснай народнай творчасці адлюстроўвае рэгіянальны фальклор?**

— Так, хоць, вядома, выданне мае агульнанацыянальнае значэнне. Яго трэба ацэньваць як прыступку ў асэнсаванні беларусамі свету сябе, як працэс імкнення да сябе. Ён прарастае з кожнай вёскі, з кожнай таленавітай спявачкі. У кожным куточку нашай зямлі мы знойдзем парасткі незвычайнай творчай мастацкай прыгажосці. Каб Вы бачылі хату-музей спявачкі Дар'і Бельскай, якая робіць пано з саломкі! Не ўсе людзі нагадваюць свіней каля карыта, многія з іх падымаюць вочы да Бога, да вышынь, да духоўнай святасці. Яны невядомыя універсітэтам, кансерваторыям, акадэміям мастацтваў, але яны ёсць. Зараз, пасля ўсяго, што было зроблена фалькларыстамі, трэба ісці далей.

**— Хацелася ўсё ж такі ўсвядоміць розніцу паміж выканаўчай культурай фальклорных калектываў тыпу «Свята», «Дзянніца», «Вяселле», «Госціца», «Ліцвіны», «Тутэйшая шляхта», «Неруш», «Крэсіва», «Янка», «Рунь» і іншымі, з аднаго боку, і выканаўчай культурай рэгіянальных фальклорных калектываў да асобных выканаўцаў, мастацтва якіх лічыцца першасным, аўтэнтычным, з другога боку. Мы ўжо гаварылі аб тым, што многія калектывы, якія залічваюць сябе да фальклорных, на справе займаюцца прафанацыяй народнага мастацтва.**

— Скажу, што ў пераважнай большасці названыя Вамі калектывы даюць высокамастацкую інтэрпрэтацыю фальклору ў свядомым беларускім маладзёжным асяроддзі. Яны імкнуцца ісці ў сваёй творчасці да глыбокага пазнання фальклору. Тая ж «Дзянніца» дае такія ўзоры спеўнай культуры, што не кожны вясковы фальклорны калектыў заспявае «Даліну-далінушку» так, як яна. Што да «Свята» і «Госціцы», то яны імкнуцца да прафесійнай інтэрпрэтацыі фальклору, як і «Песняры». У іх падачы нацыянальная форма застаецца, а мастацкая накіраванасць ідзе ў сферу філасофска-этнаграфічнага пазнання. А ўвогуле, інтэрпрэтацыі фальклору — выдатныя, калі яны не пародыі, не спекуляцыі і не фальсіфікацыі.

**— Зазірнём у будучыню. Вы сказалі, што трэба ісці далей. А куды? І чаго трэба дамагацца?**

— Задача нумар адзін, якая стаіць перад сябрамі Беларускага саюза фалькларыстаў, — гэта стварэнне Нацыянальнага ансамбля фальклору. Але толькі на трыадзіным кіце, каб першым спецыялістам у ім быў спецыяліст па спеўнай культуры, другім — па інструментальнай культуры, а трэцім — па харэаграфіі.

**— А як выглядае справа аховы фальклору на дзяржаўным узроўні?**

— 6 снежня мінулага года адбылося пасяджэнне «круглага стала» ў Беларускім інстытуце праблем культуры ў сувязі з праектам адраджэння традыцыйнай культуры мастацтва Палесся — унікальнага запаведніка славянскай культуры і ідэальнага запаведніка для даследчыкаў старажытнай славянскай культуры. Але і ўсе астатнія рэгіёны патрабуюць уважлівага вывучэння: і Падняпроўе, і Паазер'е, і Панёманне і цэнтр Беларусі. Па кожнаму рэгіёну трэба распрацоўваць дзяржаўную праграму аховы фальклору, што робіцца больш чым у сарака найбольш цывілізаваных і урбанізаваных краінах, прыкладам такіх, як Японія. Калі я пазнаёміўся з законам аховы традыцыйнай культуры ў Японіі, дзе на першае месца ставіцца адраджэнне культуры, а на другое задачы эканомікі, то я ўбачыў, што нашым урадаўцам і палітыкам не хапае правільнага разумення перспектывы адбудовы Беларусі. Трэба пачынаць з нацыянальнага выхавання, інакш мы можам атрымаць новы Чарнобыль — пры ўмове, калі на станцыі будзе сядзець не патрыёт, не чалавек, выхаваны на нацыянальнай культуры, а чалавек дэфармаваны, абыякавы да лёсу сваёй радзімы. Лічу, што ў першую чаргу зараз патрэбна прыняць закон аб ахове фальклору. А паколькі фальклорны дылетантызм можна пераадолець толькі асветніцтвам, адукацыяй і выхаваннем, то трэба падумаць аб Беларускай акадэміі народнага мастацтва і стварыць яе патрэбна на дзяржаўным узроўні, бо культура рынку не вытрымлівае.

**— Такая Акадэмія павінна стаць навуковым цэнтрам ці адукацыйным?**

— Вышэйшай навучальнай установай для падрыхтоўкі бакалаўраў народнага мастацтва. Яны будуць арганізоўваць культуру ў тым ці іншым рэгіёне і кіраваць фальклорнымі калектывамі. Дакладней, будуць падслухоўваць, арганізоўваць, выводзіць на высокі мастацкі ўзровень. Бо спявачак, якіх часта зняважліва клічуць «бабулямі», трэба толькі падслухоўваць, ад наспяваных імі песень выходзіш заўсёды такі прасветлены і ўзбагачаны духоўна.

Фальклорны калектыў як асноўны асяродак захавання рэгіянальнай, а значыць, і нацыянальнай самабытнасці, патрабуе высокакваліфікаванага кіраўніка. Ён павінен быць унікальным: ведаць і спеўную культуру, і інструментальную, і харэаграфію. Узорам такога кіраўніка для мяне з'яўляецца Васіль Купрыяненка — мастацкі кіраўнік «Свята», які паказаў на адным з канцэртаў у філармоніі, як можна выводзіць на агульначалавечы ўзровень беларускі музычны фальклор.

**— Васіль Дзмітравіч, побач з прафесійнымі і фальклорнымі калектывамі працуюць калектывы і мастацкай самадзейнасці. Ва універсітэце культуры, як вядома, не рыхтуюць кіраўнікоў фальклорных калектываў, але рыхтуюць кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці. Скажыце, а якая карысць грамадству ад самадзейных калектываў?**

— Самадзейнае мастацтва як бы падмурак прафесійнага, але вельмі часта — дрэнны злепак з апошняга. Трэба, безумоўна, умець адрозніваць самадзейнае мастацтва ад фальклорнага.

**— Васіль Дзмітравіч, што такое фальклор?**

— Фальклор — гэта не мастацтва слова, як многія разумеюць яго спецыфіку, а гэта аснова культуры і нацыянальнае аблічча кожнага народа.

**— Якая практычная накіраванасць Вашай дзейнасці?**

— Быў распрацоўшчыкам праграмы пад назвай «Адраджэнне традыцыйнай мастацкай культуры Палесся». Але галоўная мая задача — збіраць і запісваць фальклор. Раблю гэта не толькі са студэнтамі на канікулах, а і на працягу ўсяго года. Прыкладам, за апошні месяц я пабываў з экспедыцыяй у Баранавічах, Лельчыцах, Ельску, Глыбокім і Горках. За дваццаць гадоў работы ў навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору мною накоплены вялікі скарб: больш чым мільённы аўдыёархіў, рэгіянальны архіў па кожнаму раёну і кожнай вёсцы: жанравы архіў — абрадавыя песні, прыказкі, загадкі і г.д. Самае каштоўнае, што захоўваецца ў сейфе лабараторыі, — гэта больш за 150 відэафільмаў, запісаных у вясковым асяроддзі (вяселлі, радзіны, народныя святы і абрады, такія, як Шчодрык, Стрэчанне, Грамніцы, Саракі, Вялікдзень, Купалле, Жаніцьба Цярэшкі і інш.) — усё ў рэгіянальных варыянтах. Некаторыя з гэтых запісаў скарыстоўваюцца ў тэлепраграме «Запрашаем на вячоркі». За гэты час выдадзена каля 30 кніг і больш за 150 навуковых прац.

**— Што Вы скажаце пра сучасную беларускую мову?**

— Сёння беларуская мова — прадмет жорсткіх спрэчак і дыскусій. Іх вядуць між сабою розныя грамадскія плыні: авангардысты, якія адстойваюць «тарашкевіцу», адукаваныя на «наркомаўцы» людзі, для якіх яна стала апірышчам у жыцці, і ворагі беларушчыны, тыя, хто не жадае «корявить свой язык». Дык вось, усім ім хачу сказаць: уважліва слухайце народную песню. Магчыма, тады не будзе аб чым спрачацца.

**— У друку не раз і не два дыскутавалася пытанне, узнятае аб'яднаннем «Палессе». Дазваляе ці не дазваляе спецыфіка гэтага рэгіёна прызнаць, што палешукі — асобны народ, а іх самабытная мова бліжэй да ўкраінскай, чым да беларускай.**

— Характэрная рыса мовы палешукаў — спеўнасць. Палешукі сядзяць на такой выключнай з'яве, як падгалосачныя спевы. На Палессі ніколі не скажуць «Ірына», а толькі заспяваюць: «Ірынко-о-о, хадзі сюды-ы-ы». Нават у звычайнай побытавай сітуацыі там не гавораць, а спяваюць. Я паляшук, але антыпод тых, хто спекулюе на паляшуцкасці, як аб'яднанне «Палессе». Палессе трэба цягнуць у беларускасць, выкарыстоўваць усё лепшае, у тым ліку і дыялекты. Палеская культура — рэгіянальнае праяўленне беларускай культуры, з якіх і складваецца адна агульная нацыянальная культура, што існуе толькі на прафесійным узроўні.

**— Дзякую за гутарку і поспехаў Вам у адраджэнні фальклору.**

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**



У сан архіепіскапа нядаўна ўзведзены Епіскап Брэсцкі і Кобрынскі Канстанцін. Яго прызнаюць адным з найбольш аўтарытэтнейшых іерархаў праваслаўнай царквы.

Айцец Канстанцін — сын зямлі Беларускай, у міру — Канстанцін Андрэевіч Хоміч — нарадзіўся на Берасцейшчыне ў 1911 годзе. Скончыў духоўную семінарыю ў Вільнюсе, затым працягваў духоўную адукацыю ў Варшаве. Першы прыход атрымаў яшчэ ў 1936 годзе, а ў 1970-м прыняў манаства. Працяглы час узначальваў вядомы не толькі ў праваслаўным свеце Жыровіцкі манастыр, чым мог падтрымліваў беларускую духоўную культуру. Спадзяёмся, і надалей шлях да Бога новага архіепіскапа будзе адначасова беларускім.

Фота Эдуарда **КАБЯКА**, Белінфарм.

## Творчасць нашых чытачоў

*Анатоль СТАНКЕВІЧ*

### Другія жывуць, а вось мне не пражыць...

Другія жывуць, а вось мне
не пражыць
Без раніцы роснай і возера
светлага,
Дзе сцежка праз поле ў дзяцінстве
бяжыць,
Дзе ўсё да былінкі маё, —
запаветнае...
Тут бацька і маці ў зямельцы
ляжаць,
Тут сэрца лагодзяць мясціны
крынічныя.
Дзе смолкамі кліча дзяўчат
сенажаць,
Дзе месяц падковаю б'е
ў аканіцу...

## Іранічнае

*Слабадан ВУКАНАВІЧ*

### Гэтак і я раблю, калі сапсую нешта

Сусед-будаўнік
Пасля работы
Пытаецца ў мяне,
Што такое Плюралізм,
Цэнтралізм, Марксізм.
Я яму тлумачу.

На другі дзень зноў
пытаецца.
Забыўся.
Зноў яму тлумачу.
А ён:
— Трасца на гэтыя
Плюралізмы,
Цэнтралізмы,
Марксізмы.
Няхай раскідаюць і
ладзяць нанова.

Гэтак і я раблю,
Калі сапсую нешта.

**З сербскахарвацкай мовы пераклаў Іван ЧАРОТА.**

## Пачутае ад аўцюкоўцаў

* * *

Аўцюковец вярнуўся з Польшчы. Прывёз адтуль адну ісціну: «Пункт відзэня залежыць ад пункта сядзення».

І як засвоіў яе!..

У яго пытаюць:

— Калі няма працы, што робіш?

— Сяджу, каласок, і думаю.

— А калі праца ёсць?

— Толькі сяджу...

* * *

Надвячоркам вяртаюцца тры аўцючкі з свінарніка. Бачаць, ляжыць у канаве п'яны мужчына. Адна агледзела і кажа:

— Гэта не мой муж.

Другая пацвердзіла:

— Гэта не мой сусед.

А трэцяя махнула рукой:

— Гэта зусім не з Аўцюкоў.

— Чаму, калінка?

— Ногі ляжаць у бок Глінная Слабады.

* * *

Прыгаварылі аўцюкоўца за вальнадумства да смяротнай кары праз павешанне. А каб у турме не карміць, на час дамоў адпусцілі. Сядзіць ён дома і дзень, і два, і ўсё непакоіцца: сваю вяроўку і мыла браць ці казённыя дадуць. А як прыйшоў час кары — выбілі з-пад яго услончык. Спачатку пагайдаўся небарака, нагамі крыху паперабіраў і заціх. А потым адну руку падняў, за вяроўку ўчапіўся, падцягнуўся, другой рукой пятлю з шыі зняў, саскочыў і трэ шыю. Усе, хто бачыў, ад здзіўлення анямелі. Пракурор да яго! Доктар да яго: «Как вам это удалось? Как вы себя чувствуете?». Ды нічога, кажа, сябе «чувствую». Спачатку троху муліла, але ж мы прывышныя і жывучыя.

## Пародыі

*Георгій ЮРЧАНКА*

### Без нататніка

*1 х 1 — мая радасць уся.*
*...................................*
*Бескалёрнай пралескай па схіле ўтравелым,*
*Прамінулай усцехай раскошнай вясне,*
*Камячком безбалесным — у вір звар'яцелы*
*Паляцела душа. Каля сонца спачне.*
**Валянціна АКСАК.**

Пяццю пяць — дваццаць пяць, сямю сем —
сорак дзевяць.
Селязінавы май у зацёртых дварах.
Патаемнасць вачэй справядліва падзеліць
Прамінулую ўсцеху на дрогкіх вятрах.

Шасцю шэсць — трыццаць шэсць, пяць плюс тры
— роўна восем.
У абдоймах выстрончвае прывід ці наў?
Сок адпудны ізноў выштукоўвае восень
І храбусткі пярэдзім мяно адагнаў.

Сорак пяць мінус трыццаць — астатак пятнаццаць.
Пракаветныя струны ў суквеце слядоў.
Нечуваныя гуслі спрабуюць жагнацца
У грахоўнай цямрэчы світальных гадоў.

А праз пругкую скругласць падыдзе мярнічы.
Заапоўначны госць кіне згук пад гарой.
Раскунежаны шлях любадайна пакліча
Узвычаеным зыкам гаймідарны рой.

Аблямойка сашчэціць паўкружал астатні.
Уздыхнуць пракаветныя дні-бадзякі.
У сумоўнасці дум, пракаўтнуўшы нататнік,
Спрамянёныя мроі складуцца ў радкі.

### Запрашэнне

*Я мяхі ўсе зацырую,*
*Жорны ліха закручу...*
**Іна СНАРСКАЯ.**

Сама бульбу я садзіла,
Сама буду выбіраць.
Сама жорны раскруціла,
Сама буду выграбаць.

Штось сукенка стала вузкай,
Але лепей прамаўчу;
Зацырую юбку-блузку,
Ў карагодзе паскачу.

Верабейка ўміг з паркана
Пераскочыў на пляцень.
Мой спакуслівы жаданы
Не прыходзіць трэці дзень.

У нядзелю складна-гучна
Пелі дзеўкі за ракой.
Ты адкажаш, мой разлучнік,
За парушаны спакой.

Я ласункі цэлы ранак
Рыхтавала без маны.
Дык прыходзьце на сняданак —
На картоплю і бліны.

## ДЗЯКУЕМ!

**Таварыству беларускай мовы імя Ф.Скарыны на выдавецкую дзейнасць беларусы з Англіі ахвяравалі:**
**Я.Дамінік — 50 фунтаў стэрлінгаў**
**М.Баяроўскі — 60 долараў ЗША**
**М.Швэдзюк — 60 долараў ЗША**
**С.Будкевіч — 30 фунтаў стэрлінгаў**
**М.Сенька — 20 — " —**
**А.Зданковіч — 20 — " —**
**Т.Верамейка — 20 — " —**
**А.Сідаровіч — 20 — " —**
**М.Залога — 10 — " —**
**П.Асіповіч — 10 фунтаў стэрлінгаў**
**Ф.Жынгель — 10 — " —**
**Я.Міхалюк — 10 — " —**
**С.Азейка — 10 — " —**
**В.Еўдакімаў — 10 — " —**
**Х. (інкогніта) — 10 — " —**
**В. (неразборліва) — 5 — " —**
**З.Сямашка — 5 — " —**
**Ю.Весялкоўскі — 5 — " —**
**Х.Кажаневіч — 15 долараў ЗША**

**Шчыра дзякуем, дарагія суродзічы!**

## Крыжаванка-пераклад



**Па гарызанталі**: 5. Действительность. 6. Подъём. 7. Дрянь. 8. Средство. 9. Светать. 12. Поседеть. 13. Тяжело. 15. Ярко. 16. Бежать. 17. Сугроб. 18. Мгла. 19. Журнал. 21. Комедия. 24. Бремя. 25. Тряпка. 26. Оскал. 27. Усталость. 28. Излишек. 29. Цифра. 30. Почка (анат.).

**Па вертыкалі**: 1. Грязнить, пачкать. 2. Смирение. 3. Завтрак. 4. Оцененные. 10. Осколок. 11. Хвойные. 13. Целина. 14. Ответ. 20. Отшельник. 21. Принадлежащий крестоносцам. 22. Юбка, часть народного костюма. 23. Щель.

**Склала Людміла ШНІП.**

## Пра вавёрчын шлюб

***(З народнага славенскага)***

Было гэта яшчэ ў тыя часы, калі вавёрка ў дзявоцтве гойсала. Ды вельмі ўпадабаў яе вожык. Усяляк падкочваўся, заляцаўся, падарункі амаль штодня цягаў. Яблыкі, што апалі ў акрузе, усе дарэшты сваёй абранніцы перанасіў. Ну а ў рэшце рэшт прапанаваў, каб вавёрка пайшла за яго замуж.

— Ну што, — адказала вавёрка, — замуж дык замуж. Калі так ужо хочаш, магу і за цябе пайсці. Глядзі толькі, і надалей будзь са мною добры, уважлівы.

Страшэнна ўзрадаваўся вожык, абяцаў быць такім, як абранніца захоча, і без адкладу кінуўся рыхтавацца да вяселля.

Абышоўшы лес, ён папрасіў ваўка, каб быў за свата, зайца — за маршалка, лісу — за нявесціну дружку, а хутканогую сарну — за вястунку. Справілі неўзабаве вяселле. Прычым такое, што ажно лес шумеў, як кажуць.

Пасля гэтага балю вавёрка шуснула на вяршыню яліны. І вожык падаўся за ёю, у вавёрчына ўтульнае гняздзечка, як належыць, на агульную пасцель.

Ды тут усчаліся непаразуменні. Вавёрка раптам загаласіла:

— Вой-вой! Ты колешся — прэч!

Вожык упрошваў нявесту, каб не праганяла, далікатна адсоўваючыся ўбок.

Маладая ж не супакойвалася і стаяла на сваім:

— Э не! Не-не! Ты колешся! Ідзі прэч!

Вожык і так, і гэтак яе ўлагоджваў — усё марна. Мусіў яшчэ далей адсоўвацца. Ды не ўтрымаўся, паляцеў стрымгалоў з яліны і — бух! — так гэпнуўся аб зямлю, што страціў усялякае жаданне зноў наведвацца да вавёркі ў гняздзечка.

З той пары ён увогуле не лазіць па дрэвах.

Вавёрка ж нейкі час жыла адна. Пакуль не знайшла сабе мужа другога, больш прыдатнага па здольнасцях і звычках. Праўда, яго таксама неаднойчы праганяла з сумеснага прытулку. Аднак другі яе муж паводзіў сябе інакш зусім. Ён у такіх выпадках сігаў, хапаўся за бліжэйшую галіну і заставаўся вісець побач, зацята даказваючы, што жонка сваімі выбрыкамі дужа псуе шлюбныя адносіны. Між тым, лад у іх ніяк не ўсталюецца. Глядзіш, не паспелі сысціся — учынаюць сварку.

**Пераклаў з славенскай мовы Іван ЧАРОТА.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 975

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 5905 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 10.04.1995 г. у 15 гадзін.